«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 10 (218), кастрычнік 2024 года

# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 10 (218) (кастрычнік)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus

## Змест








**ГРАМАДА**

# Слава і памяць

...Зноў надышла-паўтарылася крывавая дата ў гісторыі літаратуры, у нацыянальным летапісе — генацыду беларускіх пісьменнікаў, дата ягонага апагею: за адну ноч 29-га кастрычніка 1937 года ўлады забілі дваццаць творцаў...

Якаў Бранштэйн, Віктар Вайноў, Анатоль Вольны, Платон Галавач, Алесь Дудар, Хацкель Дунец, Міхась Зарэцкі, Васіль Каваль, Язэп Каранеўскі, Майсей Кульбак, Саламон Левін, Юрка Лявонны, Валеры Маракоў, Зяма Півавараў, Васіль Сташэўскі, Ізі Харык, Пятро Хатулёў, Міхась Чарот, Павел Шастакоў, Арон Юдэльсон.

У наступную ноч стрэлы ў склепах унутранай турмы НКУС абарвалі жыцці Прохара Іспраўнікава, Янкі Нёманскага, Тодара Кляшторнага, Юлія Таўбіна...

Целы ахвяр вывезуць за горад ва ўрочышча Курапаты, дзе засыплюць у раней выкапаных і непазначаных магілах.

А раней — 7 верасня — Сталін падпісаў «расстрэльны спіс асобаў» (103 чалавекі), якія, на яго думку, былі датычныя да антысавецкай дзейнасці на тэрыторыі БССР (яго, той спіс, «узаконілі» і Молатаў, Кагановіч, Варашылаў, Яжоў). 15 верасня спіс быў дапоўнены Наркаматам унутраных спраў БССР — і пачаліся арышты і судовыя працэсы...

А яшчэ той кастрычнік 1937-га быў юбілейным для забойцаў: 20 гадоў вялікай рэвалюцыі, месяц Ленінскага камсамола. Святкаваць — не працаваць, забіваць — не нараджаць...

Вось, да прыкладу, як знішчалі выдатнага паэта Валерыя Маракова: 27 кастрычніка 1937 года адбылося падрыхтоўчае пасяджэнне Ваеннай калегіі (!) Вярхоўнага суда СССР пад старшынствам ваенюрыста Матулевіча з удзелам юрыста дывізіі Мілякоўскага і брыгаднага юрыста Заранава. Вырашылі: справу прыняць да вытворчасці і заслухаць яе ў закрытым парадку «без вызова свидетелей и без сторон обвинения и защиты». Назаўтра адбыўся «суд» — у складзе той жа тройкі. Ён доўжыўся 15 (!) хвілін. Паэта прыгаварылі да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу — з канфіскацыяй усёй уласнай маёмасці. Рашэнне суда абскарджванню не падлягала і паводле пастановы ЦВК СССР ад 1 снежня 1934 года было неадкладна выканана...

За восень 1937-га нкусаўцы расстралялі больш за 50 беларускіх пісьменнікаў, а за ўсе 30-я гады — каля дзвюхсот. Чорны «рэкорд» варты занясення ва ўсе кнігі трагедый, ён павінен быць увекавечаны ў помніках, шыльдах, гісторыях, падручніках, памяці.

Справы рэспрэсаваных пісьменнікаў, як і раней, захоўваюцца ў закрытых архівах, і ніхто за іх смерці (пасля поўнай рэабілітацыі творцаў) не быў пакараны і не атрымаў спагнанняў...

Забываючы пра забойствы, наша сучаснасць забывае як пра першаасnову чалавечай маральнасці, духоўнасці, так і пра падмуркі беларускай дзяржаўнасці, яе карані і жывільныя сокі. Бо не ведае ці ведаць не хоча: калі б не беларуская літаратура, калі б не апантаная праца беларускіх літаратараў — не было б сёння і дзяржавы Беларусь. Гэта яны — пісьменнікі — ажывілі напрыканцы XIX стагоддзя светач нацыянальнага Адраджэння ды распальвалі яго на пачатку XX-га. Так гістарычна склалася, што Беларусь у той час не мела іншых палітыкаў, дзяржаўных дзеячаў, нацыянальных ідэолагаў, апроч сваіх літаратараў. І яны мусілі не толькі сягаць ва ўзвышшы творчасці, але і штодня «прыземлена» працаваць асветнікамі, настаўнікамі, прапагандыстамі, выдаўцамі, палітыкамі, дыпламатамі, мусілі ахвяроўваць на тое свае сілы, час, грошы, а часта — і свабоду. Многія з іх — Карусь Каганец, Якуб Колас, Вацлаў Ластоўскі, Максім Гарэцкі і іншыя — звведалі турмы яшчэ дасавецкія: і расійскія, і польскія, і літоўскія.

Хто першымі распачалі выхаванне беларускай моладзі ў нацыянальным, а не чужынскім духу? Беларускія пісьменнікі: Карусь Каганец, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Вацлаў Іваноўскі, Якуб Колас, Браніслаў Тарашкевіч, Язэп Лёсік...

Хто першымі на ўвесь свет выказалі ідэю стварэння сваёй краіны-дзяржавы ды абвесцілі яе незалежнасць? Беларускія пісьменнікі: браты Іван і Антон Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі, Пётра Крэчэўскі, Алесь Гарун...

Хто былі першымі кіраўнікамі беларускіх дзяржаў — Беларускай Народнай Рэспублікі і Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі? Беларускія пісьменнікі: Вацлаў Ластоўскі, Пётра Крэчэўскі, Антон Луцкевіч; Цішка Гартны...

Хто былі першымі міністрамі першых беларускіх урадаў? Беларускія пісьменнікі: Язэп Лёсік, Кастусь Езавітаў, Вацлаў Іваноўскі, Фабіян Шантыр...

І, урэшце, каго першымі катавалі, дабівалі даносамі ды паклёпамі, знішчалі ў сутарэннях катоўняў, у дамавінах турмаў, на лагерных этапах, у снягах Сібіры? Іх, беларускіх пісьменнікаў!

З дзвюх тысячаў літаратараў былой савецкай краіны знішчаных ці рэпрэсаваных — чвэрць (!) беларускіх. З паўтысячы пісьменнікаў Беларусі напрыканцы 30-х на волі засталося з дзясятак...

У той час, калі суседнія краіны не толькі ашчадна вывучаюць перыяд сталінскіх рэпрэсій, ахоўваюць памяць пра іх нявінных ахвяраў, выкрываюць віноўных, сучасныя швондзеры могуць запэўніць: «Рэпрэсій не было!». І выкрэсліваць адпаведныя раздзелы ва ўніверсітэцкіх і школьных праграмах ды падручніках. Калі ў суседзяў вывучэннем «знішчанай літаратуры» займаюцца акадэмічныя інстытуты, фонды, у нас і сёння — гэта праца аматараў, адзінак-апантанцаў, часта — родзічаў закатаваных пісьменнікаў. Так, сапраўдным помнікам сотням знішчаных творцаў і тысячам рэпрэсаваных стала кніга Леаніда Маракова (пляменніка расстралянага паэта Валерыя Маракова) «Вынішчэнне. Рэпрэсаваныя беларускія літаратары» (Мінск, Літаратурна-мастацкі фонд «Нёман», 2000). Кніга была выдадзеная на сродкі аўтара накладам... 50 асобнікаў.

Сёння ствараюцца новыя музеі і новыя «лініі», гучаць хвалебныя панегірыкі мінулым гадам, аднак аніякія — нават самыя кашчунныя часы — не маглі і не змогуць знішчыць праўды. А выкрэсліваючы яе з гісторыі, мы можам выкрэсліць і сябе — і з той жа гісторыі, і з сучаснасці, і з будучыні.

Вечная памяць ім, беларускім пісьменнікам, знішчаным і закатаваным за іх працу і мары, каб жыла Беларусь, творцам і нашай нацыянальнай літаратуры, і нашай нацыянальнай дзяржавы!

# КАЗАЎ ПРАЎДУ, або ХАЙ СПРАЎДЖВАЮЦЦА НАДЗЕІ

## Да 100-годдзя Івана ЛЕПЕШАВА

Ала ПЕТРУШКЕВІЧ

***Іван Якаўлевіч Лепешаў — патрыярх беларускай фразеалогіі і парэміялогіі. Нарадзіўся ў вёсцы Іскозы Дубровенскага раёна. Доктар філалагічных навук, прафесар. Ветэран Вялікай Айчыннай вайны, меў раненні, узнагароджаны ордэнам Вялікай Айчыннай вайны II ступені, медалямі «За адвагу», «За баявыя заслугі», «За ўзяцце Кёнігсберга» і інш. У 1948 годзе скончыў Аршанскі настаўніцкі інстытут, затым працаваў выкладчыкам беларускай мовы ў Свіслацкай СШ Гродзенскай вобласці. Быў беспадстаўна рэпрэсаваны, а пасля рэабілітаваны (1963) за адсутнасцю віны, працаваў рознарабочым у лагерах Прыморскага краю (1949—1955). З 1956-га — настаўнік беларускай і рускай моў і літаратур у школах Шчучынскага раёна. Завочна скончыў (на выдатна) філфак Гродзенскага педагагічнага інстытута (1959) і аспірантуру ў Мінскім педінстытуце (1971). З 1971 года працаваў у Гродзенскім педагагічным інстытуце (пасля ўніверсітэце) спачатку выкладчыкам, пасля дацэнтам (1973), прафесарам (1986).***

***Аўтар каля 520 навуковых, навукова-метадычных публікацый, працы «Литературно-краеведческий кружок», больш як 40 кніг («Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў», «Лінгвістычны аналіз тэксту», «У пошуках ісціны», «Надзённае», суаўтар «Практыкуму па беларускай мове» ды інш.). Выдатнік народнай асветы.***

***Памёр 12 кастрычніка 2014 года. Пахаваны на гродзенскіх могілках «Аульс».***



Іван ЛЕПЕШАЎ

23 кастрычніка спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння знакамітага вучонага-мовазнаўцы Івана Якаўлевіча Лепешава. Ён не толькі даследаваў мовазнаўчыя праблемы, але і актыўна супрацоўнічаў з выданнямі, каб выказаць сваё разуменне таго, што адбываецца ў Беларусі і свеце. Знакаміты навукоўца меў глыбока патрыятычную грамадзянскую пазіцыю, дасканала ведаў айчынную літаратуру, у якой не пераставаў шукаць і знаходзіць новае для сябе, з'яўляўся сталым чытачом многіх беларускіх перыядычных выданняў. Ягоны роздум пра мінулае, пра сённяшні стан грамадства, роднай літаратуры адлюстроўваў глыбокую занепакоенасць будучыняй нашай краіны.

Традыцыйна напрыканцы года Іван Якаўлевіч рыхтаваў да выдання новую кнігу, якую складалі надрукаваныя на працягу года артыкулы. Кніга, якая падвяла рысу пад зробленым за прадапошні ягоны 2013 год, мае назву «Пошукі і роздум» (Гродна: «Юрсапрынт», 2014. — 152 с.). Гэта розныя па стылю, па жанрах працы шаноўнага навукоўцы. Адкрывае кнігу артыкул «Славуты лексікограф і фалькларыст», прысвечаны І. І. Насовічу. Перад намі паўстае постаць не толькі вялікага вучонага, збіральніка духоўных скарбаў беларускага народа, але і педагога-асветніка, светапогляд якога фармаваўся ў вельмі неспрыяльнай для беларушчыны грамадскай атмасферы. Аўтар аб'ектыўна ацэньвае стаўленне вучонага да нацыянальнай палітыкі імперскай Расіі, вернападданым грамадзянінам якое той быў. І. Я. Лепешаў падкрэслівае: «Аддаючы належнае І. І. Насовічу за яго патрыятычны, навуковы подзвіг (стварэнне «Слоўніка...» і іншых прац), не лішнім будзе ведаць і тое, што па сваіх светапоглядных і палітычных перакананнях Насовіч — цвёрда ўпэўнены, «глыбока перакананы, заўзяты вернападданы расійскага цара і айчыны», «цалкам пазбаўлены беларускай нацыянальнай самасвядомасці», «тыповы прадстаўнік заходнерусізму». Гэтак слушна яго ахарактарызаваў Ніл Гілевіч, прачытаўшы «Успаміны майго жыцця» і напісаўшы да іх прадмову».

«Адзначаючы сёння (7. 10. 2013 г.) 225-годдзе з дня нараджэння Івана Іванавіча Насовіча, будзем і далей помніць пра ягоны навуковы подзвіг у гісторыі нашага народа і яго духоўнай культуры, будзем таксама ведаць, што многія яго палітычныя погляды наўрад ці прымальныя для абсалютнай большасці цяперашніх беларусаў. Што было, тое было. З песні слова не выкінеш», — чытаем у заключэнні.

Нельга абысці ўвагай артыкул «На мой "Добры дзень!" кажуць мне «Здрасце»...», у якім узнята заўсёды балючая для вучонага-патрыёта тэма роднае мовы. Аўтар назваў напісанае журботнымі нататкамі, бо якую ж глыбокую журбу выклікала ў ягоным сэрцы стаўленне да беларускае мовы! Тут і настальгічныя згадкі з маленства, калі такім родным, шчырым і зразумелым пажаданнем веяла ад вітання ў бацькоўскай хаце: «Добры дзень у хату!». І параўнанне з сучаснасцю, што вынесена ў назву. І роздум: чаму так? Чаму беларусы цураюцца свайго, нягоршага, ды яшчэ «прыпраўляюць» гэту адмову тэрміналогіяй, ад якое тхне найгоршай ідэалагічнай хлуснёй. «Дык ці варта беларусам адмаўляцца ад свайго, спрадвечнага, еўрапейскага "добры дзень", лічыць яго ледзь не нацдэмаўскім або "бэнээфаўскім" ды пераймаць чужое, царкоўнаславянскае?» З болем пытаў пра гэта аўтар чытача, які цалкам пагаджаецца з ім. Бо чытачы выданняў, у якіх друкуюць такія артыкулы, звычайна аднадумцы аўтара.

І. Я. Лепешаў добра разумеў прычыны занядбання роднае мовы, пісаў пра тыя антыбеларускія сілы, што займаюць кіруючыя пасады. А беларус, так ужо павялося, не адно стагоддзе мусіць падрабляцца пад тых, хто мае ўладу. Аўтар не хаваў свайго стаўлення да сучасных ворагаў беларушчыны, характарызаваў іх учынкі едкім, злым словам. Бо хіба ж яны таго не варты? Нехта ж мусіць казаць праўду, нягледзячы на «клясы і рангі»: «Пераход жа большасці беларусаў на рускую мову (асабліва ў апошнія дваццаць гадоў) — гэта сітуацыйна абумоўлены пераход на мову дзяржаўнай адміністрацыі, якая з неверагодна дзікай пагардай ставіцца да "мовы", адмаўляе нашу нацыянальную гісторыю і культуру, здзекліва высмейвае тых, хто ўжыў у размове беларускае слова».

Надзвычай актуальна ўспрымаецца сёння артыкул «Настальгія па імперыі», пачатак якога — экскурс у далёкую гісторыю, дзе бяруць вытокі асновы менталітэту расейскага люду: «Народ в течение многих веков воспитывался на имперской пропаганде блистательных побед и высокомерной воинственности» [с. 28]. Здавалася б, дзіўным чынам І. Я. Лепешаў прадказаў тое, што адбываецца сёння ва Украіне. Але гэта зусім не дзіўна для тых, хто ведае, з якою трывогай і заклапочанасцю сачыў ён за ўсім, што адбываецца ў свеце, як перажываў праявы расійскага вялікадзяржаўнага шавінізму, якія прапагандуюць і такія «навукоўцы», як Ю. Жукаў, супраць зусім не навуковых высноваў якога заўсёды выступаў. Ды як не пратэставаць беларусу-патрыёту, калі той нахабным чынам навязвае канцэпцыю: «Адна краіна — адна нацыя — адна мова», тым самым не пакідаючы месца для існавання і нам, беларусам. І такія дзеячы «культуры», як спявачка Ж. Бічэўская, што не без поспеху гастралюе па ўсіх абшарах былога СССР, прапагандуючы страшныя ідэі, якія на ўра прымаюцца слухачамі... Такія «перлы-прадказанні» ў выкананні небезгалосай вялікадзяржаўніцы Бічэўскай хіба не спрыялі сённяшняй трагедыі блізкага нам народа?

*Возвратит Россия*
*русский Севастополь,*
*станет снова Русским*
*полуостров Крым,*
*наш Босфор державный,*
*наш Константинополь*
*и святыня мира Иерусалим.*

Як яшчэ на амерыканскі Брайтан-біч не прэтэндуюць: там таксама «адна мова» і «адна нацыя»...

Артыкул «Жыве Беларусь!» таксама актуальны сёння, калі на вышэйшым узроўні сцвярджаецца, што няма беларускай ідэі, якая б аб'яднала нацыю, а адна шаноўная журналістка пярэчыць: ёсць, прыводзячы гэты славуты выклічнікавы фразеалагізм, так дарагі кожнаму, каму неабыякавы лёс краіны. Праўда, яна не гаворыць пра аўтарства гэтага вобраза-клічу, пра што, на жаль, ведаюць зусім нямногія. Ворагі беларушчыны нахабна ілгуць, сцвярджаючы, што паўстаў ён у часы нямецкай акупацыі. І. Я. Лепешаў ставіць кропку на гэтай ілжывай непісьменнай дыскусіі: «Ответ же на вопрос, откуда взялся этот национальный клич и сегодняшнее крылатое выражение, может быть только единственный: он из стихотворения Янки Купалы «Гэта крык, што жыве Беларусь», написанного в 1905—1907 гг. и впервые напечатанного в его книге «Жалейка» (1908)».

З якой глыбокай пашанай і гонарам пісаў І. Я. Лепешаў пра гэты вокліч, што вырваўся з глыбіні душы беларускай і ўвасобіўся ў творы Вялікага Песняра! Дазволім сабе своеасаблівую «нарэзку» з тэксту даследчыка: «Это возглас веры, надежды, чаяния, желания, чтобы наша Родина стала действительно свободной, независимой, демократической... Он произносится с логическим ударением на первом компоненте, иногда сопровождается определенным жестом — поднятием правой ладони... Одновременно это выражение — и девиз, и лозунг... Думается, что выражение «Жыве Беларусь!» вошло в плоть и кровь преобладающего большинства наших людей и его уже никак нельзя вытравить. Нельзя его и нейтрализовать, ослабить его воздействие на людей...». Навукоўца не толькі сцвярджаў, ён прыводзіў шматлікія пераканаўчыя доказы, прыклады з мастацкіх твораў, з публіцыстычных артыкулаў, з уласных назіранняў. Іх багата, бо чытач І. Я. Лепешаў з тых, хто не прапускаў ні аднаго нумару нашых перыёдыкаў, ні аднаго новага вартага твора...

Бескампрамісным змагаром за праўдзівую навуковую вартасць нашых даследаванняў паўстае аўтар у артыкуле «Кампіляцыя, плагіят...». Так, назва гаворыць сама за сябе, так, тэкст камусьці можа падацца занадта жорсткім. Але раскрытыкаваныя выданні насамрэч таго варты, бо гэта і ёсць «прадукцыя сумнеўнай вартасці», а зусім не навуковыя выданні. Прафесару-фразеолагу, які не толькі «зубы з'еў», працуючы ў гэтай галіне мовазнаўства, але і ўсю душу ўкладваў ва ўлюбёную працу, вельмі абыходзіла аматарская несумленнасць складальнікаў перакладнога слоўніка. Выказваючы боль і заклапочанасць, цытаваў свайго расійскага калегу прафесара А. У. Жукава, які пісаў: «Сапраўдныя лексікографы (а не самазванцы-чаляднікі, нячыстыя на руку!) добра ведаюць, якой працы, крыві і поту патрабуе пошук нават адной ілюстрацыйнай цытаты...». Далей прыводзяцца прыклады неприхаванага плагіяту са «Слоўніка фразеалагізмаў» у часопісным артыкуле маладой аўтаркі, «перадача» аўтарства яшчэ аднаго ягонага слоўніка іншаму навукоўцу.

З шматлікіх мовазнаўчых артыкулаў вылучым «Фразеалагізмы з кампанентамі-некратызмамі». Скурпулёзны даследчык вырашыў праверыць, ці праўда, што ў рускай фразеалогіі такіх больш за 1000. Па ягоных падліках (аналіз быў зроблены на аснове «Фразеалагічнага слоўніка рускай мовы»), атрымалася больш за 200. Вось ужо гэтая расійская прага ўзвелічэння! Але размова не пра гэта. У беларускай мове такіх фразеалагізмаў аказалася больш за 320. І гэта ж толькі дзякуючы фразеалагізмам захаваўся цэлы пласт адметных, вельмі цікавых слоў: авохці, дыхт, фора, хны, байды, тылылы, драпака, рэй, пішчом... Дык падзякуем за гэта фразеалагізмам! І іх даследчыкам таксама. І няхай яны (некратызмы) «намёртва» прывязаныя да фразеалагізма, усё ж кожны так многа гаворыць тым, хто хоча пачуць.

У артыкуле «Выразы з маўлення зняволеных» даследчык раскрыў паходжанне гэтых арыгінальных моўных з'яў, прыводзячы, як заўсёды, прыклады з мастацкай літаратуры. Тут найперш выкарыстоўваюцца творы А. Салжаніцына, якога І. Я. Лепешаў глыбока шанаваў як вялікага пісьменніка і, як мала хто нават з літаратараў, дасканала ведаў. Бо не проста прачытаў калісьці, а перачытваў неаднаразова.

Той пласт лексікі зняволеных часоў Салжаніцына ўспрымаўся з вялікай доляй спачування, бо ўтвараўся ён людзьмі не без гумару, што дазваляла выжыць у нялюдскай сістэме ГУЛАГу. Так, беларускі эмігранцкі пісьменнік Аўген Калубовіч у сваім мастацка-дакументальным творы «На крыжовай дарозе», даследуючы ў адным з раздзелаў лексіку зняволеных, якраз і пісаў пра прысутнасць у ёй гумару. Сёння ж адбываецца недарэчнае, непрыстойнае «аблатненне» лексікі, што сыходзіць з самага высокага ўладнага ўзроўню, калі кіраўнік суседняй дзяржавы, адкуль ідзе да нас гэты лексічны пласт, дазваляе сабе выказванні тыпу 'мачыць у сарціры'...

У артыкуле названай кнігі І. Я. Лепешава «Драматычны, драматургічны» сабраны багаты фактычны матэрыял, каб паказаць, што ў выкарыстанні гэтых прыметнікаў існуе разнабой, што аўтары часцей не задумваюцца пра іх сэнсавую характарыстыку. Даследчык прапанаваў выкарыстоўваць дэталёвыя апісанні, зробленыя ў нядаўна выдадзеным «Вялікім акадэмічным слоўніку рускай мовы», дзе разгледжаны ўсе значэнні і аднаго, і другога прыметніка, бо «яны характэрныя і для беларускай літаратурнай мовы». Чаму аўтары вымушаны звяртацца да рускага выдання? З тае простае прычыны, што яно «дае магчымасць яго выкарыстальнікам знайсці пры неабходнасці адказ на ўзніклае пытанне пра ўжыванне таго ці іншага прыметніка ў пэўнай маўленчай сітуацыі. А ў Тлумачальным слоўніку беларускай мовы адназначнага адказу не знойдзеш». Зусім не таму, што наш слоўнік горшы, а таму, што ён выдадзены ўсяго ў пяці тамах, а мусіць нарэшце выйсці «ў дваццаці (як і ў іншых мовах)», на што выказваў надзею І. Я. Лепешаў.

І гэта надзея, і ўсе іншыя мары-спадзяванні нашага шаноўнага Настаўніка Івана Якаўлевіча Лепешава хай жа спраўджваюцца!

# Беларуская мова: пытанні да сябе і сусвету



Ганна СЕВЯРЫНЕЦ

…Мне сем гадкоў. Я — чытач. Чытала я, колькі сябе памятаю, — маці з бацькам філолагі, раскошы ў хаце няма, але ж кніжак! Вершы мне не падабаліся: навошта гэтыя ненатуральныя словы, зацятыя ў цесныя чатырохкутныя клеткі і надрукаваныя пасярод пустой старонкі, ды яшчэ і без малюнкаў? Мама час ад часу падсоўвала Пушкіна. Гэта было невыносна. Нудота. Часам са стосаў ля сцяны вымаліся і беларускія кніжкі — але ж адразу адкладваліся. Нейкія кропачкі й хвосцікі па-над радкамі — не разумею.

Памятаю, як першы раз пачула беларускае слова. Гэта быў урок беларускай мовы. Званок. Настаўніца ўваходзіць. Клас стаіць, як заўсёды на пачатку ўрока. Настаўніца — такая зразумелая і знаёмая ад прычоскі да бантыка на туфлях — раптам ківае галавой і кажа: «Сядайце!» І гэта так незвычайна і смешна, што мы пачынаем рагатаць.

Так рагочам мы ўсю першую чвэрць. «Сядайце!» — «Га-га-гага!» І потым чытаем па складах дзіўныя, незразумелыя словы пра незразумелых людзей, пра нейкіх чарнавусых мужыкоў і галодных дзяцей, якія сёрбаюць зацірку. Мне шкада, што сярод гэтых засмучаных і квёлых герояў няма Шчукара — той быў значна весялейшы…

Літаратура пачынаецца (для мяне) з рускай. Доўгі час падаецца, што ўсе на свеце пісалі па-руску, і калі раптам прыходзіць усведамленне, што, напрыклад, «Карлсан» насамрэч напісаны па-шведску, а «Шчаўкунок» — па-нямецку, некалькі дзён сусвет навокал выглядае вывіцаваным.

Па-беларуску чытаю, але — без ахвоты. Чамусьці ўсе беларускія кніжкі, якія выцягваюцца з бацькоўскіх стосаў ці бяруцца ў школьнай бібліятэцы, — гэта сумныя апавяданні з аднолькавымі, каліўца ў каліўца, героямі: сялянскімі дзецьмі ў чунях, сівымі дзядамі ў кашулях, суворымі партызанамі, якія чамусьці кідаюць сваіх дзяцей на пагібель, з рушнікамі і гладышамі.

Сярод гэтага састарэлага побыту і чужых дэкарацый час ад часу ўзнікае нешта незвычайнае, цудоўнае, як «Палескія рабінзоны» Янкі Маўра, узнікае, — і тоне ў віры жабрацкіх вёсак і ваеннага ліхалецця. А потым здараецца Караткевіч, «Каласы пад сярпом тваім». Задалі прачытаць, але ж пайшла пагалоска: кніжка здараўенная. Э-э-э, думаю, зноўку нешта сельскагаспадарчае, беллітнае, невясёлае. Але ж трэба — значыцца, трэба. З другой старонкі здараўеннай кніжкі я забываюся пра час і прастору. Чытаю ўдзень, чытаю ўвечар, чытаю ўночы, чытаю на ўроках і нават на хаду, калі вяртаюся па вывучанай на памяць за сем гадоў дарожцы са школы. Я — з імі. Я — герой. Я не заўважаю мовы. Кропкі па-над радкамі дапамагаюць вачам не саскокваць з думак, бо саскочыць хочацца — далей, далей, ну, што там, як яны, ці пераможуць? Хвосцікі над У чапляюцца за самае сэрца, і я ведаю, што з аднаго боку на гэтым гапліку я, а з другога — Загорскі, і нас не расчапіць нікому і ніколі.

З тае пары ўсе хлопцы мераюцца Алесем Загорскім. Выпрабаванне праходзяць не ўсе. А калі па праўдзе — то ніхто. Але ж я ўжо настрылася жыць у кніжках, і таму мне не сумна. Алесь існуе. І нідзе больш — ні ў воднай іншай кніжцы, ні ў воднай кампаніі па-за кніжкаю — такога няма.

Я пачынаю раз-пораз пераглядаць тую паліцу ў новенькай секцыі, дзе бацькі паставілі беларускія кніжкі. Увесь Караткевіч. Брыль. Быкаў. Адамовіч. Мележ. Маўр… Чамусьці ўяўляць сябе на месцы закаханай у Васіля Ганны значна прасцей, чым зразумець адносіны Анегіна і Тацццяны, хаця Тацццяніна дзяцінства («она влюблялася в обманы и Ричардсона, и Руссо») мне больш зразумелае, чым дзяцінства «здаецца, учора яшчэ — гарэзы, падлетка». Я прымяраю на сябе шынялі Рыбака і Сотнікава, і, па-дзявочы супрацьўляючыся сувораму рэалізму Быкава, перапісваю ў галаве гісторыю Джуліі. Але сапраўднае адчуванне вайны прыходзіць не з Быкавым.



Фота brestcity.com

З Быкавым — адчуванне чалавека. А вайны — крыху пазней. Абрыньваецца, як снег: холадам, непазбежнасцю, злосцю і той мужнасцю, якая толькі завецца гераізмам, а насамрэч ёсць мужчынскай работай. Гэта — Панчанка. Першы верш, які нібыта ламае косці.

*Злосна сказаў: «Уставай, пяхота!*
*Мы не на пляжы, а на вайне».*
*І лёг на зміныя скруткі дроту.*
*І дзвесце салдацкіх запыленных ботаў*
*Прайшлі па яго спіне.*

З таго часу пра вайну і пра чалавека больш зразумела — па-беларуску. Падаецца: рускія кніжкі — пра вайну наогул, і пра чалавека — наогул. Там я — усё яшчэ чытач, зачараваны і пакорны, а тут — герой, менавіта пра якога якраз і напісана.

Аднойчы бацькі бяруць з сабой на канцэрт. Віцебскі тэатр. Народу — процьма. Усюды — бел-чырвона-белыя сцягі. Выглядае гераічна. Першы раз бачу гэтыя сцяг, першы раз чую, каб па-беларуску размаўлялі так, што не хочацца рагатаць, як тады, на ўроках. Беларуская мова з кніжнае мовы раптам становіцца мовай гутаркі. Дзіўна…

І праз некалькі тыдняў здараецца галоўнае. На беларускай паліцы адшукваецца Багдановіч. Не той, хрэстаматыйны, з засмучанымі ткаллямі і абавязковым «радзімым васільком» (падавалася, вось яны даткуць — і пойдуць сёрбаць зацірку), а — мой, родны, чаканы, у якога закахацца — імгненна і назаўсёды.

З Багдановіча я пачынаю збіраць сваю беларускую палічку. Ротапрынт «Вянка», трохтомнік з прозай і крытыкай, біяграфія, успаміны… Лёгкай, шпаркай хадою ўваходжу ў Багдановічава жыццё: як жывога, бачу жвавага, неабыякавага Адама Рыгоравіча, прыгажуню Марыю Афанасьеўну, Максіма — спачатку маммін сынок, а пасля — бацькаў сябра… Высачэзны, чорнавалосы, шыракаплечы — як было не закахацца паэзіі ў такога паэта? На адной са старонак нечакана адшукваецца знаёмае:

*Мне доўгае расстанне з Вамі*
*Чарней ад Вашых чорных кос.*
*Чаму ж нядобры час прынёс*
*Мне доўгае расстанне з Вамі?*
*Я пабляднеў ад горкіх слёз*
*І трыялет пачаў славамі:*
*Мне доўгае расстанне з Вамі*
*Чарней ад Вашых чорных кос.*

Успамінаецца: калі я прамаўляла на бацькоўскай кухні палымяныя словы супраць паэзіі, якая нібыта забівае жывую чалавечую гаворку, бацька, усміхаючыся, чытаў пра чорныя косы і запытваў: «А? Ну як? А гэта ж клетка самая цесная — не проста вершык, а трыялет! Але ж — жывое слова? Жывое?»

Скарацца не хацелася, але адчувалася: сапраўды — жывое. А потым настае філфак. Мой філалагічны факультэт кожнай лекцыяй сыходзіў у легенды і міфы. Нам чыталі Алег Лойка і Ірына Скарапанава, нам пяяла старажытную рускую літаратуру Антаніна Шалемава і раскрываў сакрэты старaславянскай мовы Якаў Трэмбавольскі. На лекцыі Барыса Нормана мы ішлі пешшу праз увесь горад, калі раніца раптам заставала бесклапотных студэнтаў не дома і без грошай на праезд…

Разам з літаратурай пачынае прыходзіць і мова. Не проста словы, вымаўленыя з цвёрдым «ч» ці мяккім «ц», не проста сказы, пабудаваныя «не па-руску», не проста «трус» замест «кроліка» і «вёска» замест «дзярэўні».

Мова — як назапашаны тваімі продкамі скарб ведаў аб жыцці.

Мова — як стос пытанняў да сябе і да сусвету.

Мова — як сістэма сігналаў і рэакцый на знешнія абставіны. Калі мы жывем на небагатай зямлі побач з небяспечнымі суседзямі, калі нашыя алесі загорскія знішчаны, а нашыя васілі зацюканыя, калі я — такая ж, як яны, бо жыву там жа і гэтак жа, дзе захавалася іхняя памяць пра тое, як трэба жыць.

Незвычайны чалавек пакідае па сабе літаратуру і навукова-тэхнічны прагрэс, а што пакідае чалавек звычайны? Ён пакідае мову. Так атрымалася, што часцей мы размаўляем на мове іншага народа. Народа з іншым характарам, іншай гісторыяй, іншымі ментальнымі ўстаноўкамі. Ці не таму мы не можам знайсці свайго месца ў свеце? Немагчыма быць героем у кніжцы, якая напісана не пра цябе. Толькі — персанажам, і ў лепшым выпадку — персанажам другога плана. Мабыць, таму не бачна нашых рускамоўных пісьменнікаў на літаратурных небасхілах рускай літаратуры — раз-пораз мільгане, зазіхаціць — і да часу згасае.

Зразумела, пісаць я пачынала па-руску, але гэта было відавочна не тое. Літары складаліся ў словы, але ж на гэтым — усё. Ступар. Думкі са словаў не складваліся. Спрабавала і прозу, і вершы, і эсэ, ды нічога не атрымлівалася. Але ж аднойчы — трэба было занатаваць бабуліны расповеды пра продкаў — і я раптам вырашыла: а што, калі паспрабаваць па-беларуску? Усведамленне прыйшло з першых радкоў. Я — аўтар. Мая беларуская мова паводзіць сябе інакш за рускую. На ёй чамусьці немагчымы пафас і мараль. Наадварот: кожную хвіліну так і цягне пасмяяцца, пажартаваць ці падкалоць хоць каго, а няхай бы і сябе, гэткую аўтарку. Радкі атрымліваюцца шчыльнымі, насычанымі, словам цесна, думкам прасторна, усё як мае быць. Падавалася: я — усемагутная! Мне падпарадкоўваюцца словы! Мне далі мову!

Было б наіўным думаць, што беларуская літаратура вычэрпваецца «беллітам», але я — быў час, так думала. Але калі ты становішся аўтарам, то вымушаны звяртацца да калегаў. Гэта складана і не заўсёды прыемна: на кожнай старонцы цябе, такога малайца, чакае чарговы «удар со стороны классика»: аказваецца, усё тваё ўжо сказалі, і сказалі лепш за цябе. Тая «белліт», якую ты спадзяваўся ашчаслівіць сваім з'яўленнем, зусім не жабрачка з заціркаю, і зусім не мужык-беларус, чорны сам, белы вус, у ёй гаспадарыць. У нас ёсць Барадулін, паэт, якога нават няма з кім параўнаць (дурная звычка школьнага літаратуразнаўства, маўляў, Купала — наш Шаўчэнка, Мележ — наш Шолахаў, Колас — наш Пушкін, «Новая зямля» — наш «Анегін»). У нас ёсць Андрэй Федарэнка, празаік, якім немагчыма начытацца. У нас ёсць Вінцэсь Мудроў, у якога немагчыма не вучыцца. Ёсць Алена Масла і Раіса Баравікова для дзяцей, ёсць Людміла Рублеўская і Валер Гапееў для падлеткаў, і не толькі для дзяцей, і не толькі для падлеткаў, але ж барані, Божа, ад пералікаў, каго-небудзь абавязкова пакрыўдзіш, пералічваючы, лепей так: для кожнага беларуса ёсць нешта самае-самае сваё ў беларускай літаратуры — а колькі яшчэ будзе, пішацца ў гэты самы час!

Мы — аўтары, і мы выконваем свой абавязак перад сусветам: выдыхаем, выпяваем, выціскваем з сябе мелодыі, у якія ператвараецца подых вышэйшых сілаў, што пануюць над усім навокал. Хто больш таленавіты — пяе магутна, як валторна ці саксафон, хто меней — выводзіць сваю сарамлівую мелодыю жалейкай; але ж нельга не спяваць — навошта ж тады нам была дадзена мова?

…Недзе тут трэба было б паставіць кропку — але гэта немагчыма. Ці можа быць кропка ў гісторыі пра тое, як да чалавека прыходзіць родная мова і як ён ідзе да яе? Так, нашай мове дадзена вялікае шчасце: да яе трэба ісці, праз цяжкасці і складанасці, праз раманы з іншымі мовамі, праз забароны і ўласную ляноту, да яе трэба ісці, як ідзе да сваёй веры апантаны вернік; яе трэба здабываць, як здабывае доўгачаканае золата аляскінскі авантурыст. Наша мова — не для кожнага матчыная, падараваная разам з жыццём, яна бывае і бацькавай, бывае ўзнагародай за пошук і за паразуменне. Менавіта таму кропку ставіць не буду. Бо ўжо не на ростанях. Хутчэй — на паўдарозе. А, як вядома, дарогу адужае той, хто ідзе.

# Чалавек-памылка



Віталь БЫЛЬ

Шарэе. Напрыканцы кастрычніка заўсёды шарэе так рана. Тым больш тут, у парку, сярод раскідзістых дрэваў, хоць і амаль пазбаўленых лістоты. Я іду, заграбаючы нагамі гурбы апалага лісця. Лісце незадаволена шапаціць і ўздымаецца на дыбкі, паглынаючы мае чаравікі. Навокал — нікога, і я магу дазволіць сабе гэта свавольства: згадзіцеся, дарослы чалавек, які грабе нагамі лістоту ў цёмным парку, выглядае крыху незвычайна. Людзей звычайна гэта бянтэжыць. А я люблю незвычайнае.

Позняй восенню парк падобны да адзінокага пенсіянера. Яго яшчэ час ад часу адведваюць, забягаюць па справах ці так, заскокваюць па дарозе. Гэта ўжо наведвальнікі, прахожыя, але не госці...

У голым цёмным парку ўсіх сустрэчных я дзялю на маньякаў і ахвяраў. Умоўна, канешне (так, і я таксама невылечна скалечаны тэлебачаннем). Вунь спадарыня ў цёплым паліто, нагружаная сеткамі і пакетамі. Відаць, вырашыла зрэзаць шлях праз парк і ўжо сама не радая. Эх, як азіраецца на кожны гук, як крок прыспешвае... Уціскае галаву ў каўнер і ледзь не подбегам мінае масток. Яна на варожай тэрыторыі. Яна чакае свайго маньяка, каб стаць ахвярай. А ў такім выпадку маньяк — гэта я. У двукоссі, безумоўна. Мы, «маньякі», тут як дома. Змрок, адзінота — мы гэта любім. Нашыя спіны прамыя, крок лёгкі, у вачах няма страху. Мы — як тыя коткі, што любяць гуляць самі па сабе.

Хутка мая любімая лаўка. Перад ёй — іржавы кантэйнер для смецця. Трава, лісце, неба, дрэвы, хмары — і раптам вялікі іржавы куб. Прыгожа... Та-ак, відаць, сёння маё сузіранне не атрымаецца. Там ужо сядзіць нехта. Шэрая надзьмутая асенняя куртка надае яму выгляд згустку туману, што зачапіўся за недарэчна жоўтую лаўку. Хто гэта: брат-«маньяк» ці горкі п'янчужка? Вечар размывае рысы твару, але, быццам, нехта знаёмы... Падыходжу бліжэй, напружваю зрок. Чалавек азіраецца. Дык гэта ж Андрэіч, мой начальнік аддзела! Толькі нейкі сумны і пакамгаканы. Што ён тут робіць? Жонка з хаты выгнала, ці што?

Мне захацелася, каб сцежка раптам звярнула ўбок, але яна паволі цягнула мяне да жоўтай лавы.

— Добры вечар, Аляксандр Андрэевіч! — расплываюся я ў бадзёрай усмешцы бравага падначаленага. — Паветрам дыхаеце? Гэта правільна! Цяпер на вуліцах такі смог!..

Шэф толькі сумна паківаў галавой:

— Выбачайце, малады чалавек, але я не Аляксандр Андрэевіч, ці як там вы мяне назвалі.

— О, выбачайце, — у мяне з душы ўпаў камень (не кожны работнік, седзячы на бальнічным, будзе рады сустрэць начальства ў парку халодным восеньскім вечарам!), — вы так падобныя... Я пераблытаў...

— Падобныя? — горка ўсміхнуўся мой субяседнік.

Толькі цяпер я яго разгледзеў як след. Невысокі, вузкія плечы, хударлявы інтэлігентны твар, сумныя вялікія вочы. Падобны да шэфа, як Чарлі Чаплін да Шварцнэгера! Цяжка нават уявіць, што хвіліну таму я збіраўся завярнуцца і навастрыць лыжы.

Заўважыўшы маю збянтэжанасць, незнаёмец яшчэ больш горка дадаў:

— Нічога, не перажывайце. Людзям уласціва памыляцца. Асабліва са мной...

Раптам ён устаў з лаўкі і дастаў з-пад курткі нож. Звычайны кухонны нож, не вельмі новы, з крыху сточаным лязом і пачарнелай ручкай. Канешне, чалавек, які дастае з-пад курткі кухонны нож у цёмным парку, выглядае дзіўнавата, нават падазрона. Але сам рух быў такі натуральны і просты, ды і нож выглядаў зусім свойскім і хатнім, звыклым рэзаць мяккія боханы на лусты да абеду і крышыць гародніну ў суп... Палохацца проста не атрымлівалася.

Нож незнаёмец працягнуў мне.

— Выбачайце, шаноўны спадар, калі вам не цяжка і калі вы нікуды не спяшаецеся, не маглі б вы мяне... ну, гэта самае... забіць. Калі вы, канешне, нікуды не спяшаецеся...

— Што-што? — я вырашыў, мне памроілася.

— Ну, забіць... Як бы гэта... зарэзаць... Не, у сэнсе не як бы, а сапраўды, да смерці, каб я памёр.

— Як гэта? — я ўсё яшчэ не мог паверыць, што сапраўды гэта чую.

— Як? — пытанне збіла з панталыку майго субяседніка. — Ну, я не ведаю. Як-небудзь. Па тэлевізары ж усяк робяць. Вы глядзіце, як вам будзе зручней... Толькі каб хутка.

— Гэта... А вы самі не спрабавалі? — спытаў я, тупа назіраючы, як ён укладвае нож у мае пакорныя далоні. Ад незнаёмца патыхала вінам.

— Сам? — ён апусціў вочы долу. — Не, ведаеце, неяк духу не хапае. Страшнавата. Болю баюся.

— Дык мо і не трэба? Давайце я вас правяду да прыпынку, — ледзь не праспяваў я аксамітным голасам. — Сядзеце ў аўтобус, прыедзеце дадому, паспіце... Вам жа заўтра на працу, так?

Незнаёмец апусціўся на лаўку. Аўтаматычна я сеў побач. Вочы знайшлі іржавы кантэйнер. Ён ужо амаль зліваўся з паветрам — так сцямнела.

— Мо і не трэба... Не ведаю. Я ўжо нічога не ведаю. Нават ужо сумняваюся, хто я такі.

— У вашым стане гэта бывае. Паспіце, а раніцай усё будзе зразумела.

— Ці не жадаеце віна? — спытаў псеўда-шэф. — О, халера, разлілося, я не заўважыў. Ну што ж, яшчэ адна памылка. Ды я сам — памылка!

— Як гэта — чалавек-памылка? Як чалавек-павук? — не ўтрымаўся я.

— Не зусім. Хутчэй як чалавек-невідзімка. Памятаеце, у Герберта Уэлса? Толькі ад самага нараджэння. Калі я выпаўз на свет Божы, акушэрка схапіла мяне і давай маці віншаваць: «А якая ж мілая ў вас дзяўчынка! Сапраўдная прынцэса!». Толькі дома і агледзеліся, што да чаго. Мама ўсё любіла расказваць гэтую байку.

— Ды ну, не бывае такога. Так памыліцца! Мабыць, маці жартавала ці сама чаго наблытала. Нараджаць — гэта вам не жартачкі.

— Вось і я баюся, што наблытала, — яго голас упаў да гучнага свісцячага шэпту. — А ці яе дзіця забралі дадому?

Жартуе? Твар незнаёмца быў сур'ёзны і нават абыякавы, але гэтыя вочы... З такімі вачыма не жартуюць. Ён тым часам працягваў:

— Са мной часта здараліся розныя рэчы. Быццам бы звычайныя. Мяне вельмі часта блыталі з братам...

— Нічога дзіўнага, браты звычайна падобныя, — перабіў я. — Таму іх часам і блытаюць.

— Але да брата я быў падобны не болей, чым да вашага шэфа, — крыва ўсміхнуўся мой субяседнік. — І ўсё ж нас блыталі. А яшчэ мне дасталася за чужыя грахі. Баба Гэля, суседка, часта скардзілася, быццам я лазіў у яе сад трэсці грушы і абдзіраць маліну. Бацька доўга не разбіраўся, а адразу хапаўся за папругу. Я цярпеў-цярпеў гэтую несправядлівасць і нарэшце вырашыў: пакутаваць — дык за справу. Пералез цераз плот, ускараскаўся на дрэва і давай трушчыць вішні. Аж не заўважыў, як баба Гэля падышла. Стала, глядзіць. Уцякаць позна. А тая пастаяла і кажа: «Ты б, Касцічак, унучачак, не чапляўся так высока, яшчэ звалішся. Ідзі лепш дзедаў зэдлік вазьмі».



Фота pikabu.com

— Дык, значыць, вас Канстанцінам завуць? — спытаў я. — Вельмі прыемна. А як па бацьку?

— Як мяне завуць? Я і сам не ўпэўнены. Але тады мяне звалі Славікам, а ці быў я падобны да Косці, Гэлінага ўнука, — і блізка не быў. Вось тады я і зразумеў, што нешта са мной не так, як з усімі людзьмі...

— Але я ўсё ж не бачу падставаў, каб забіваць сябе.

— І я не бачыў. Да гэтага дня, нават вечара. Я апошнім часам працую звышурочна. Прыходжу дадому амаль за поўнач і па́даю, як забіты. Нам з жонкай патрэбныя грошы. Мы вырашылі, што ўжо час завесці дзіця. Дакладней, так Шура вырашыла. Яна ў гэтым лепш разбіраецца, я ёй давяраю, хоць сам і эканаміст. Шура ў мяне баба з галавой. Хоць і пакрычаць любіць, чаго тут, рукам волю даць. Але яна ў мяне добрая. Дык вось, сёння пад вечар у нас у канторы была невялічкая аварыя. Звычайная штатная аварыя, нават не аварыя, а так — збой. Нешта недзе перагарэла, і электрычнасць адрубілі, як нам сказалі, надоўга. Таму сёння атрымаўся скарочаны дзень. Ну, я, зразумела, адразу дахаты. Адмыкаю ключом дзверы, а там, у цёмнай прыхожай — Шура. Ды такая прыгожая! Закрывае мне далонькай рот і цягне за сабой у спальню... А пасля ўсяго яна так пяшчотна да мяне прытулілася і кажа: «Спі, Алежка, спі. Мой баран яшчэ не хутка прыйдзе. Ён зараз нам грошыкі зарабляе. Заробіць, а мы з табой іх возьмем — на мора. Праўда, мілы?». Яна задрамала. А я ляжаў, бы абліты кіпенем. Устаў асцярожна, каб яе не патрывожыць, ціха апрануўся і пайшоў на кухню — дзіка захацелася есці. Па дарозе зазірнуў у люстэрка ў прыхожай: ці я гэта? На кухні адчыніў лядоўню, адламаў кавалак сыру — і мяне ледзь не званітавала. Толькі тады я пачаў адчуваць лютасць. Не шаленства, не прагу раўці і трушчыць усё навокал, як раз'юшаны бык, а халодную разважлівую лютасць. Я зірнуў на нож, які сам апынуўся ў маіх руках. Вось гэты самы нож. Павольна, ведаеце, як бывае ў сне, вярнуўся назад у спальню. Па дарозе зноў зазірнуў у люстэрка. Гэта ўсё ж быў я, у палінялых сямейных майтках, з нажом. Я стаў каля ложка, думаў. Куды ўдарыць: па горле, пад сэрца, у жывот? Як гэта правільна робіцца там, у кіно? Мабыць, трэба па горле. Яна не зможа закрычаць. Яна толькі захрыпіць, а навокал па прасцінах распаўзецца мокрая чырвоная пляма. Раптам на кухні завурчэў халадзільнік. Такі дамашні будзённы гук. Зусім не кіношны. Гэта было як крык пеўня. Я ўбачыў сябе: худы, сутулы, у палінялых сямейных майтках, з нажом. Стаю і збіраюся забіць жонку. Кухонным нажом — па горле. Абсурд. Мне стала сорамна, што Шура прачнецца і ўбачыць мяне, такога. Быццам выходзіш з душа — і раптам заўважаеш, што ты на людным праспекце. Я стрымгалоў вылецеў у прыхожую, нацягнуў на сябе, што трапілася пад руку — хутчэй прэч! І вось я сяджу тут і чакаю, можа, хто згодзіцца мяне забіць, бо сам... Не магу, ну аніяк... Абсурд...

Было холадна. Я адчуваў, як холад, нібы брудны вычварэнец, запускае свае ледзяныя пальцы пад маё адзенне. З кожнай хвілінай гэтых абдымкаў маё чалавекалюбства марнела і чэзла. П'яная лухта кранала ўсё меней.

— Паслухай, паважаны, — сказаў я, ледзь хаваючы раздражненне. — Самагубства — гэта куды прасцей, чым здаецца. Скокні з якога мосту ці з даху высоткі, а калі застрашна — проста наглытайся таблетак. Аптэкі, дарэчы, яшчэ працуюць.

Не зважаючы на тое, што ён мармытаў у адказ, я падхапіўся і шпарка пакрочыў прэч, расціраючы задубелыя рукі.

І была ноч, і быў ранак. І быў дзень, звычайны працоўны дзень. Андрэіч, які ніколі не хварэў і таму лічыў бальнічныя лухтою і гультайствам, загрузіў мяне па самую шыю. І дзень скончыўся, як заўсёды — роўна ў пяць.

І быў вечар. Пяльмені, кава, канапа, тэлевізар. Вячэрні выпуск «Панарамы».

— Да іншых навінаў, — дзелавіта сказала дыктарка. — Супрацоўнікамі правапарадку быў затрыманы серыйны забойца, які вось ужо тры месяцы арудаваў у парках сталіцы. На яго рахунку больш за дзесяць крывавых спраў. Толькі ўнікальная спецаперацыя дазволіла пакласці канец ягоным злачынствам.

Далей — кадры аператыўных відэаздымкаў. Казённы кабінет, за сталом — скурчаная постаць. Твар — схаваны, у інтарэсах следства. На ўсе пытанні — адзін адказ: «Гэта памылка, зноў памылка... Абсурд...». Палкоўнік, сурова насупіўшыся, самазадаволена расказвае падрабязнасці, дэманструе запакаваную ў празрысты пакет прыладу злачынства — нож. Звычайны кухонны нож, не вельмі новы, з крыху сточаным лязом і пачарнелай ручкай.

— Як вам удалося выйсці на след гэтага няўлоўнага садыста? — спрытная журналістка суне мікрафон у твар міліцыянеру.

— Спачатку дзяжурная частка прыняла званок ад невядомага свядомага грамадзяніна. А затым — справа тэхнікі, — палкоўнік аж прыжмурыўся, грэючыся ў праменях славы. — У ходзе тэрміновых аператыўна-росшукавых дзеянняў злачынец быў затрыманы. Сведкі і адна ахвяра яго апазналі. Так што справа хутка будзе перададзена ў пракуратуру.

— Міліцыя просіць грамадзяніна, чый званок дапамог вызваліць горад ад маньяка, звярнуцца па ўзнагароду, — мікрафон вярнуўся да журналісткі. — Тым часам пракуратура...

Я не даглядзеў сюжэт, пераключыўся на іншы канал, дзе пачынаўся чарговы серыял. Нецікава. Яшчэ адна асечка карнай машыны. Яшчэ адна недарэчнасць чалавека-памылкі. Апошняя, я ведаю. Я ўсё ведаю. Каму ведаць, як не мне. А за ўзнагародаю я не пайду...

Гляджу на свае пальцы. Чыстыя, далікатныя. Яны яшчэ ў думках абдымаюць пачарнелую ручку, зліваюцца з ёй у адно ў дакладным удары — знізу ўверх, пад рэбры, пад сэрца. І чужое жыццё барвовымі кроплямі сцякае па лязе нажа, ужо не звычайнага кухоннага хлебарэза, а сакральнага ахвярнага клінка... Яны дохнуць, а я жывы!

Паскакаў па каналах. Адно і тое ж. Усё звычайнае, а я люблю іншае.

Выключыў. Сяджу ў змроку, палю. Адзін. Змрок, адзінота — мы, маньякі, гэта любім...

# Экраны Пандоры



Валянціна ОСІПАВА

## Пра ідэю

*Фізіка-хімічную характарыстыку ідэі
даць складана — яна нематэрыяльная.
Метад адмаўлення,
які выкарыстоўваюць тэолагі,
у гэтым выпадку не спрацуе.
Пойдзем іншым шляхам,
каб даследаваць атрыбуты ідэі.
Ідэі не маюць вагі,
але, нягледзячы на сваю бязважкасць,
ім нельга адмовіць у важкасці ўплыву.
У адрозненне ад ісціны,
яны не маюць смаку,
але пасля многіх увасобленых ідэй
чалавецтву даводзіцца горка каяцца.
Ідэі не валодаюць механічнымі ўласцівасцямі,
і тым не менш, і для іх характэрна канструктыўная
трываласць:
ідэі цэментуюць супольнасці,
з іх будуецца каркас тэорый,
версій,
канцэпцый...
Ідэі закладваюць падмурак
законаў,
указаў,
пастаноў...
Ідэі не маюць фізічных габарытаў,
але бываюць высокія, ўзнёслыя і прыземленыя,
дробныя і худыя...
Як і навіны — дрэнныя і добрыя.
Як жанчыны — падспудныя,
ашаламляльныя, спакуслівыя...*

*Як мужчыны —
амбіцыйныя,
грунтоўныя,
завіральныя...
Ідэі — выдасканаленыя маніпулятары.
Яны памыкаюць грамадскай думкай,
зрадняюць і раз'ядноўваюць,
сеюць варожасць сярод сяброў,
вядуць брата на брата
і робяць кроўных ворагаў пабрацімамі...
Ідэі — магутныя.
Яны спараджаюць імперыі і перакульваюць троны,
сціраюць з твару зямлі велізарныя дзяржавы
і ўкараняюцца ў геном...
Улічваючы гендэрную прыналежнасць,
з ідэямі патрэбна паводзіць сябе асцярожна
і далікатна:
яны не ўзброеныя, але пры гэтым бываюць
вельмі небяспечнымі, асабліва ў той момант,
калі ім пераходзяць дарогу суперніцы.
Ідэі не маюць сэрца,
але валодаюць дваістасцю характару:
гуманным і ўзвышаным уласцівы
і фанатызм,
і жорсткасць,
і бязлітаснасць...
Белыя і пухнатыя служаць шчытом, штыком
ці шырмай для брудных спраў.
Даволі вядомы ідэолаг перавагі
адной нацыі над іншай на практыцы пацвердзіў,
як эфемерныя задумкі філосафаў
з лёгкасцю могуць напампаваць мышцы
ў студэнцкіх аўдыторыях і піўных,
каб потым паходнямі азараць вуліцы
і апекаваць крэматорыі,
а ў той час у «чырвонай» частцы свету,
іншыя праваднікі высокіх ідэй з непадробным
энтузіязмам мільёнамі чалавечых жыццяў брукавалі
шлях у лагернае пекла.
Ідэі — геніяльныя рэжысёры:
яны ліха кіруюць масоўкай, якая фанатычна
выконвае іхнія прыхамаці:
Галгофы і вогнішчы Інквізіцыі,
крыжовыя паходы і джыхады,
ГУЛАГі і Асвенцымы,
«чырвоныя кхмеры» і...
Ідэі бясполыя,
але ўвесь час адточваюць механізм размнажэння.
Ашаламляльнага прарыву
яны дасягнулі менавіта ў апошнія гады.
Спараджэнні ідэй шматлікія і грандыёзныя:
велічныя храмы і хмарачосы,
аэрапланы і атамныя крэйсеры,
санэты і санаты,
штучны інтэлект
і штучныя выспы ...
Ідэі непрадказальныя, як заўтрашні дзень:
камусьці разам з яблыкам звальваюцца на галаву,
у кагосьці плёск вады парадажае бляск думкі,
а некаторым шчасліўчыкам
папросту з'яўляюцца ў снах.
Нягледзячы на цьмянасць паходжання, ідэі ўспадкоўваюць
характэрныя бацькоўскія рысы:
розум і вар'яцтва,
смеласць і рызыку,
прагматызм і гуманнасць...
Паспрабуем наблізіцца да радаводу ідэй.
Працей за ўсё прыпісаць бацькоўства зямлянам.
Але некаторыя вучоныя мужы намякаюць,
быццам чалавек усяго толькі медыум, праваднік ідэй
(гл.: Буда, Платон, Тэсла і інш.).
У легкадумных паэтаў у гэтым пытанні таксама
разброд і хістанні:
адным сп'яна мрояцца Музы,
іншыя на поўным сур'ёзе
сцвярджаюць, што гапліком натхнення
выцягваюць ідэі з прасторы,
а некаторыя святатацы, быццам бы,
узяўшы дурны прыклад з Гермеса,
крадуць свяшчэнныя радкі
у самога Апалона.
Безумоўна,
дзякуючы Google можна падрабязна даследаваць
любую версію.
Гэта значна працей,
чым блукаць у трох соснах
філасофскіх нетраў.
Прэпараванне ідэй: цыталагічны аналіз,
патэрны мыслення,
дослед на таксічнасць, —
усярэдненай большасці здаецца
пустой забавай мысляроў.
А тым часам безаблічныя сутнасці,
з пераменным поспехам цягнуць па бруку вякоў
грузны воз цывілізацыі ў невядомым нікому напрамку*

## Пра культуралогію

*Зьмяніўся
культ працы
й высокай культуры
культмасавым
апашленнем:*

*вядуць
паслядоўнікаў
гуру гламуру
наўпрост
да эры
Выраджэння.*

## Пра практыцызм

*Прагу нажывы
выбралі пастырам,
каб выйсце знайсці
ў лабірынце рэальнасці.*

*Самі сябе
прывабілі ў пастку
блукання ў поцемках
рацыянальнасці.*

## Пра пафігізм

*Першакласная праграма —
наша смехапанарама!*

*З самай раніцы да ночы
мы да колікаў рагочам,
са спагадай да заганаў,
пашлякоў ды хуліганаў.*

*Што маральныя асновы
занапалі — нам не нова!*

*Быт убогі?
Крах культуры?*

*Не бяры ў мазгі!
Пакурым...*

*Выміраннем нас лякаюць,
мор маралі прадракаюць?*

*Мы на гэтыя пасажы
гучным рогатам адкажам.*

*Ачмуральная праграма —
наша смехапанарама!*

## Пра двайныя стандарты

*Кодэкс
роўнасці,
братэрства,
свабоды
дапускае
перакос
падыходу:
як для страўніка —
прысмакі на ўсе густы:
марцыпаны
і бананы,
і лангусты...
А апальнай
духоўнай
прасторы —
усё больш мярзот
з экранаў Пандоры.*

***22 кастрычніка Валянціна Дзмітрыеўна Осіпава адзначае свой юбілей. Жадаем паэтцы радасцяў і натхнення!***



Фота wint.inc

# Добрушская гісторыя


Аляксей ХАРУЖКА

***Ёсць людзі, чый лёс так шчыльна злучаны з лёсам іх краіны, што падаецца: крані адно — і адгукнецца другое. І хворасць, і радасць — нібыта ў адным целе. І здрада таксама.***

***Гэтая гісторыя пра здраду, якая расцягнулася на семдзесят гадоў. І пачалася з таго, што сусед стрэліў у спіну суседу. А пасля вайны здолеў ашукаць і выгнаць з краіны таго, у каго стрэліў — і завалодаць яго хатай і лёсам. Толькі лёс гэты застыў мёртвы — нібыта мумія ў маўзалеі.***

***Прадзед Ян Штып забраў хату, зямлю й жыццё прадзеда Івана Полаза. Лёс занёс Полазаў далёка на поўдзень і на ўсход, да пяску й бясконцай вайны. А праз палову стагоддзя праўнук Полаз адпомсціў…***

***Малодшы Полаз пасябраваў з малодшым Штыпам — і крок за крокам пазбавіў яго радзіны, айчыны й зямлі. А пасля адабраў і апошняе — чалавечую годнасць.***

***Калі Марцін Штып, нарэшце, зразумеў, чаго хоча ягоны сябар, то з адчаю кінуў і бразільскі ўніверсітэт, і забяспечанае жыццё, і нават давер — і кінуўся дамоў, каб выратаваць тое, што яшчэ можна выратаваць.***

***Яму ў патыліцу дыхалі забойцы, наперадзе чакалі варожасць і вайна.***

***Марцін Штып дабраўся да сваёй радзімы — аднак не здолеў спыніць Міхала Полаза. А той ударыў у самы крытычны момант, калі была магчымасць парушыць раўнавагу, выклікаў міжнародны скандал вакол знікнення нямецкага амбасадара — і праз мяжу пакаціліся танкі…***

***Але ж рэчаіснасць пасмяялася й з таго, хто спяшаўся паставіць на кон жыццё, і з таго, хто палічыў партыю скончанай.***

***У рамане прысутнічаюць казакі з Шабаноў, вар'яты, забойцы з «Другой брыгады Сан Паўла», святары, шляхта з аргенцінскага памежжа, паліцаі, калекі, бронетранспарцёры, медсястра ЦАХАЛа Шані і забойца з тварам, які Марцін усё маленства бачыў на старым фотаздымку на сцяне прадзедаўскага дома.***

***У рамане смачна ядуць, забіваюць, кахаюць і нараджаюць.***

***І ратуюць Айчыну — хто як можа.***

*Дзмітрый МАГІЛЁЎЦАЎ*

### Пачатак рамана

Дванаццатага траўня, калі сонца вадкім рудым полымем цякло ў вочы праз велізарнае шкло залы адлётаў, Марцін Штып убачыў тых, хто мусіў яго забіць. Яны былі побач, за тры шэрагі крэслаў ад месца, дзе гнуткі, бы спружына, мурын тыкнуў Марціна кіем пад дых. Марцін ведаў, што гэтак яно й будзе. Шанец прайсці быў не нулявы, але надта невялікі. Мурын мог збянтэжыцца, убачыўшы інтэлігентнага выгляду рашучага мужчыну прафесарскага выгляду, які ўпэўнена крочыць наперад, бо яму неабходна выйсці са шкляной клеткі, дзе ўжо трэццю гадзіну пакутуюць пасажыры пяці еўрапейскіх рэйсаў. І тады Марцін пакінуў бы інтэрнацыянальную зону, выйшаў бы вонкі, сеў у таксі й рушыў бы ў другі гарадскі аэрапорт, Кумбіка, адкуль ляцелі да Буэнас-Айрэса ды Мантэвідэо, і вылецеў бы ў Еўропу з Аргенціны ці Ўругвая. Цалкам верагодна, што тутэйшая паліцыя — тэрмінова абраныя вайскоўцы без досведу й асаблівай ахвоты лезці ў чарговы бунт. Аднак, мурын быў прафесіянал. Ён нават і не вагаўся, выцяў моцна й каротка, і Марцін, хапаючы ротам паветра, адхіснуўся і, калі б не абапёрся аб калону, напэўна ж, лёг бы на падлогу. Аднак не лёг, ціха споўз уніз, сеў, адчайна намагаючыся ўдыхнуць. А калі здолеў аддыхацца, заўважыў тых трох…

Бойка звычайна прыцягвае шмат увагі — асабліва, калі здараецца знянацку ды паблізу натоўпу. На Марціна, які намагаўся аддыхацца ля калоны, азірнуліся шмат хто. А ён, бы драпежнік ля капытнага статку, заўважыў сярод натоўпу надта прыкметныя рысы. Боль, калі ўжо сцішваецца й не драпае глытку жаданнем галасіць, дзівосна асвятляе думкі. У гэтых траіх не пазнаць забойцаў. Бо яны й ёсць не забойцамі, а звычайнымі людзьмі звычайнага правінцыяльнага мястэчка сярод пыльнага стэпу ля аргенцінскай мяжы. І адправіў іх услед за Марцінам Штыпам банальны правінцыйны гонар, дзівосны й прастадушны, які й застаўся толькі ў захалусці або на старонках раманаў.

Марцін усміхнуўся. Дзівосна адчуваць сябе нягоднікам. Бо ён насамрэч здрадзіў гэтым людзям. І тут ужо няма розніцы, па сваёй волі ці не. І таксама цалкам не істотна, навошта здраднік спяшаецца ды лезе пад кій. Бо на погляд гэтых людзей, у здрадніку існуе толькі здрада. І сцерці пляму магчыма толькі адным чынам.

— Станавіцеся ў чаргу, — прашаптаў Марцін, усміхаючыся.

Аднак жа — пашчасціла. Гэтая троіца магла зрабіцца насамрэч недарэчнай, калі б своечасова не разгледзеў яе. Уявіце сабе: пабачыць ужывую твар з фота, якое меў перад вачыма амаль усё маленства. Круглявы, крыху курносы. Шэрыя вочы, попельныя бляклыя валасы, поўныя прыгожыя губы. Яна пазірала з драўлянай рамкі ў дакладнасці гэтак жа, як дзяўчына з гэтай тройцы.

Марцін прыўзняўся, хістануўся крыху, тады пакрочыў да фатэляў ды ўсеўся спінаю да забойцаў. Часу хапае. Бразільскія ўлады не надта спяшаюцца давіць бунты, а тым болей страйкі. Кожны чыноўнік спадзяецца на тое, што трасца невядомым чынам знікне сама. Гэтакая знаёмая, амаль што радзімая надзея. Затое можна пасядзець і памеркаваць, што да чаго, каго біць і ад каго ўцякаць. Пытанне нумар адзін: чаму пан Марцін Штып яшчэ жывы? Правінцыйны гонар — рэч палымяная. Чаму пана Марціна не дачакаўся дзесьці пад фігамі на руа дас Фігэйрас юнак з танным рэвальверам «Таўрус»? Найверагоднейшы адказ: бо людзі з Сінку Пасас умеюць думаць і рабіць высновы. І разумеюць сітуацыю. І вырашылі дабрацца да яе каранёў. А менавіта: да аднаго занадта разумнага тыпа, да якога, піж іншым, хацеў дабрацца й сам Марцін.

Вось неспадзяванка: ён раптам пашкадаваў тых, каго паслалі забіваць. Калі б яны толькі ўяўлялі сабе, куды накіраваліся! Адно тое, што яны пагадзіліся ляцець за край сусвету дзеля помсты, ужо кажа зашмат. Бо з галавою, у якую месціцца ўсур'ёз ідэя помсты за гонар, надта цяжка жыць у краіне, якая нарадзіла пана Марціна Штыпа. Ціхі кпін лёсу: запхнуць у нашчадкаў тых, хто абыякава плявузгаў пра суседзяў, смаркаўся ў руку ды піў гарэлку з бутэлькі пасярод плошчы, сапраўднае шляхецтва, няхай і крышачку смешнае.

Марцін заплюшчыў вочы, нечакана заснуў і… усміхнуўся ў сне.

### Частка першая, гістарычная

Усё пачалося адзінаццатага красавіка адна тысяча дзевяцьсот сорак трэцяга года а сёмай гадзіне вечара ў дуброве прыблізна пяць з паловай кіламетраў ад мястэчка з мяккай назваю «Добруш». Тады прадзед Марціна Штыпа, «одзі» добрушскай воласці, стрэліў у патыліцу прадзеду Міхала Полаза. Прадзед Марціна Ян Штып не надта ўмеў страляць, старая цяжкая «мосінка» трэслася ў руках, і прадзед Ян пацэліў у галаву, а не ў тулава. Куля прайшла над левым вухам, выдзерла паласу скуры з валасамі. А Іван, прадзед Міхала, павярнуўся да няўдалага забойцы ды зарагатаў. Ён ведаў, што прадзед Ян не здолее стрэліць, калі ўбачыць вочы ахвяры. А яшчэ ён ведаў, што Ян хоча забіць — і дзеля таго адшукаў яго ў лесе і завёў размову пра суседскае цяля й слоік з жытнёвай, намагаючыся набрацца рашучасці.

Аднак, прадзед Іван памыліўся. Ён вырашыў, што пасля размовы няўдалы забойца наўпрост уздыхне і пабрыдзе дахаты, да таго самага слоіка з жытнёвай. Ян заўсёды поўз да слоіка, калі не хапала духу, розуму ці грошай. Аднак, нянавісць злілася ўжо ў вар'яцтва, выціснула думкі й перамагла нават жах.

Ян пачакаў, пакуль ахвяра адыдзе на сем крокаў, і стрэліў.

Іван кінуўся да няўдалага забойцы і, пакуль той дрыжачаю рукою цягнуў затвор, падскочыў ды «даў быка»: храснуў галавою ў нос. А тады пхнуў ботам пад дых, адабраў стрэльбу і гохнуў прыкладам у вуха — ужо без асаблівай злосці.

— Ах-ці ну-ці, — вымавіў прадзед Іван. — Малы Янка захацеў крыві?

— Не, — прахрыпеў той, — я не… выпадак… пацiснуў…

Іван нават збялеў ад імгненнага шаленства. Ён ненавідзеў, калі яму нахабна й тупа ілгалі.

— А-а, выпадак, ну-хці, ах-ці. Здараецца, што тут зробіш… Так і сваяка можна забіць, не?.. Янку, браце, мо, ты й насамрэч хацеў забіць мяне, га?

— Не, да ты што, — прашаптаў Ян, ухапіўшыся за разбіты зламаны нос.

— Узняў зброю, пацэліў… бацюхны, які выпадак. Ну так, так. А ведаеш, якія яшчэ здараюцца выпадкі?

— Не, — адказаў Ян, пазіраючы прастадушна і разгублена, бы малое дзіцё.

Іван коратка і моцна стукнуў прыкладам у правую галёнку. Мокра храснулі косткі. Ян дзіка завыў, скурчыўся, абхапіў рукамі зламаную нагу.

— Гэтакія вось выпадкі, сваяку, — паведаміў Іван. — Ведаеш, у лесе здараецца featuresрознае. Калі-некалі й забіваюць выпадкова. Аднак я цябе выпадкова не заб'ю. Неяк агідна мне забіваць бездапаможнага, а тым болей сваяка. І ў самоце я цябе не пакіну. Бо звяры ж драпежныя… Дзікі таксама. Вось справа будзе, нухці-ахці, калі цябе свінні лясныя выпадкова зжаруць. Я тут выпадкова вырашыў, што табе самае то зрабіцца партызанам. Тваёй радзіне яно надта паспрыяе.

Ён зарагатаў і ўзваліў самлелага на карак і панёс у лес.

Прадзед Ян ненавідзеў Івана і ўвесь род Полазаў усё жыццё. Полазы й Штыпы жылі на адной вуліцы, якая спачатку звалася Кабылаваю, а потым Клары Цэткін. Полазаў ведаў увесь Добруш. Іх лічылі народам з «чужой часткі», прышлымі, дзівакаватымі, хоць продкі іх аселі ў Добрушы яшчэ падчас Аляксея Міхайлавіча «Ціхуткага». Аніколі Полазы не займалі важных пасад, не гандлявалі, не ездзілі на заробкі, а толькі ціхенька сабе гойдаліся па Добрушу і наваколлі, мясілі чорную зямлю, збіралі суніцы ў дурнічніку, адбывалі гадзіны на дробнай казённай працы, — але ж, бач ты, жылі добра й сыта ды часцяком зазывалі суседзяў на чарку. А галоўнае — з Полазамі любое баляванне, гулянка рабіліся нашмат весялей. Амаль ад любога з Полазаў, нават ад немаўлят, нібыта лілося жывое, жвавае, тое, ад чаго ахвота спяваць дый рагатаць. І пры любой уладзе ўсе Полазы дзівосным чынам заставаліся на месцы і жылі няблага.

А прадзед Ян іх ненавідзеў болей ад уласнага нуднаватага існавання.

Бяда Яна была ў тым, што ён выдаўся хлапцом даволі разумным, з надта жвавым уяўленнем, ды і вочы меў здольныя заўважыць драбнюткія дробязі, якія, мо, адзіны з сотні й здольны разгледзець. Бацька ягоны аднойчы, раззлаваўшыся, папракнуў тым, што вочы ў сына сабачыя. Бо сабака, не разумеючы сэнсу слоў, углядваецца ў гаспадарскі твар і адтуль чытае, калі матляць хвастом, а калі хавацца пад лаву. І насамрэч, Ян усё жыццё ўглядваўся ў людскія вочы й намагаўся прачытаць тое, што будзе гэтым людзям даспадобы. Яну хацелася быць душою любой бяседы, як гэтыя клятыя Полазы. І як ім удаецца? А быў жа Ян хлапец дужы, чарнявы, даўгалыгі, з тонкім прыгожым тварам, спрытны й ладны. А калі ішоў побач з закарузлым, рудым Іванькай Полазам, дзяўчаты хіхікалі ды пазіралі толькі на гэтага рудога плюгаўчыка, які ж нават да пляча Янава ледзь сягаў. Нават калі Ян спрабаваў пажартаваць, дык навокал толькі крывіліся: ну, вярзе нешта нягеглае. А калі тое ж спавядаў Іван — ну, валіліся ж, рагочучы…

Напэўна, калі б Полазы хацелі куды з'ехаць, дык з'ехалі б, і ўсё б у іх атрымалася й на новым месцы. Штыпы ж ледзь трымаліся на старым. А былі ж разумнейшыя! Бацька Яна ведаў тры мовы, але ж не здолеў уладкавацца й простым пісарчуком. Сам Ян на выдатна скончыў сямігодку, аднак у старшую школу пайсці не атрымалася, — а лайдак Іван скончыў фабзу ды зрабіўся аўтамеханікам. І, вядома ж, адразу праславіўся на ўвесь горад, і нават дырэктар папяровай фабрыкі пасылаў па яго ўночы, калі раптам ламалася сеткавая машына.

Менавіта тады Янава нянавісць сцвярдзела і вылілася ў рашучасць. Пасля таго, як уночы прыйшлі па Яцэвічаў, што жылі на самым краі Клары Цэткін, ля копанкі, Ян ціхенька пусціў чуткі пра пальшчызну Полазаў. А тады напісаў ананімку. Добрая прыдумка! Аднак свалата Іван знянацку зрабіўся шафёрам пры мясцовай управе НКВД. Жонка ж яго, Данута — ну чуеце ж, Данута! — стала паварыхаю ў фабрычнай сталоўцы.

Калі прыйшлі немцы, Ян не чакаў доўга. Пайшоў нават не ў мясцовую «самапомач», а ў нямецкую «Орднунгсдзіенст», дзе давалі файны шынэль, боты ды капялюш. А раніцаю даведаўся, што Полазы ўжо — падзівіцеся! — тры дні як сышлі ў лес. Пад Добрушам тады былі цудоўныя лясы. Нават і цяпер можна адтуль выйсці аж у Расію. Полазы нават звялі з падворку двух кароў. Уяўляеце сабе, каровы — у лесе. Іпуць — надта пятлястая рака, старыц на ёй — процьма, дрыгва там і тут. Полазы сядзелі побач з мяжою ды трыма старыцамі, на сапраўднай выспе сярод балота і пратока, пабудавалі ў глыбокім лагу паміж пагоркамі са шчыльным ельнікам нізкія хаты й пуні і распальвалі вогнішча толькі ўночы. Да іх прыбілася мясцовая набрыдзь: стары кульгавы міліцыянер, які не паспеў збегчы, пісарчук з гарадскога НКВД, нават хтосьці з райкама — ці то буфетчык, ці то заўгас. Усяго з тузін мужыкоў ды ўдвая таго — кабет і малечы. Але ж уцекачы з гонарам называлі сябе «партызанскі атрад» і ўлетку сорак трэцяга нават уладкавалі праз суседні атрад радыёсувязь з Вялікай зямлёю.

Заканчэнне на стар. 7 »

# Добрушская гісторыя

**« Заканчэнне.**
**Пачатак на стар. 6**


Фота tsn.ua

Іпуць — цудоўная рэчка. Нібыта аграмадны серабрысты вуж зарыўся ў лес між зялёнымі пагоркамі, і блішчыць сонца на яго гладкай скуры. А ён з ледзь чутным шоргатам паўзе, падгрызае берагі і, гуляючы, валіць агромністыя дубы. Багата ў яго водах, і багата па берагах. А калі не хапала ежы з лесу, дык з цудоўнай гушчары, бы чарвякі з прыгожага яблычка, выпаўзалі Полазы. Кіраваў рэйдамі заўсёды Іван. Хадзілі далёка, аж да Смячу ці Стаўбуноў. Стралялі толькі ў самых ужо незвычайных абставінах або калі лавілі палякаў з «краёвай». Іх Іван надта не любіў, бо пазіралі, як на лайно, а забівалі амаль ні за што, ад благога настрою...

Вось у такі атрад і патрапіў прадзед Ян.

Іван забраў яго не тое, каб ад асаблівай міласэрнасці. Хутчэй — наадварот. Іван быў істотаю даволі простай і дзяліў чалавецтва на сваіх і гаўнюкоў. Сваіх трэ было шанаваць, дараваць ім як мага болей, піць ды рагатаць разам з імі і заўсёды разлічваць, што яны дапамогуць пакрыць дах. Што ж тычыцца гаўнюкоў — ну, яны гэтакія й ёсць, і ім хіба што — ботам у пысу. І калі раптам свой рабіўся гаўнюком, у Іванавым сусвеце нешта абвальвалася. Ён добра ведаў Яна, абазнанага дурня, які што толькі не спрабаваў, але заўсёды тыкаўся ілбом у сваю ж дурноту. Ну і, нарэшце, захварэў на галаву. І каб жа на яго антонаў агонь: ледзь вуха не адстрэліў! Аднак ёсць сродак ад гэтай хваробы. Добры бізун ўратаваў шмат ад якой трасцы ў галаве.

І таму Іван прывалок няўдалага забойцу ў лог над Іпуццю. Доўга валок, палову дня і амаль усю ноч, добра што поўня вісела ў нябёсах. Стаміўся, ногі пазбіваў — але ж прынёс і кінуў на кучу хмызняку. Ян зноў страціў прытомнасць ад болю. А потым тры месяцы не мог глыбока ўдыхнуць, а хадзіць здолеў толькі на чацвёрты. Ежа была не надта добрая, зіма — дрэнная, лютая. Косткі зрастацца не хацелі, нага ссохлася, скурчылася неяк. Ступіць на яе Ян не мог яшчэ тры з паловаю гады, пакуль пасля вайны герою-партызану не зрабілі аперацыю ў Гомелі. Ды і пасля таго Ян кульгаў усё жыццё, бо нага стала карацейшая й крывая.

А пакуль ён ляжаў на хмызняку ў бруднай пуні і трэсся ад ліхаманкі; яго сястру забіў сваяк.

Іван ведаў, што рабіў, калі цягнуў Яна ў партызаны. Бо амаль траціна Штыпаў пайшла ці паліцыю, ці ў «самапомач». Людцы яны былі дурнаватыя, жорсткія ды плюгавыя. Іх ненавідзела палова Добрушу. Няцяжка было прадказаць — калі Ян знікне, тут жа пойдзе чутка: да партызанаў збег са зброяй. Астатнія ж Штыпы, відавочна, ужо пастараюцца, каб ўратаваць скуры.

Рэчаіснасць перасягнула ўсе надзеі. Каб за справу, не дай Бог, не ўзяліся немцы, сваякі Штыпы вырашылі ўсё высветліць самі й данесці першымі. І ўжо ж пастараліся перад гаспадарамі. Янава сястра Наста памерла ў ночы пасля першага ж сваяцкага допыту, бо п'яныя паліцаі білі яе ў жывот ды, напэўна, пашкодзілі вантробы. Вялікая радзіна Штыпаў пасля таго разваліла-ся на дзве часткі. Нянавісць адной да другой пратрымалася і да марцінавых часоў.

Старшы з гэтых сваякоў, Сашок, не паспеў збегчы з немцамі. Яго ўзялі пад Веткаю, выбілі іклы ды пасадзілі на дзесяць гадоў. Дзівосна, але тых паліцаяў, каго не забілі на месцы, савецкая ўлада карала не так ужо жорстка. Шэраговай шалупоні кідалі па дзясятку ці па алтыну. А за Сашком анічога асаблівага не вялося. Ну, гойдаўся пры немцах, ці ж то дзіва? Пра бяду з Настаю аніхто не ўспамінаў. Штыпы, іх справа... Сашук вярнуўся, пакінуўшы ў лагеры на алтайскай Белай Бярэлі яшчэ адзінаццаць зубоў, і на першым жа сямейным застоллі глынуў троху, зірнуў на Яна ды прасіпеў:

— А Насту тваю як за сраку ўхапілі, дык адразу ўсё данесла, нават і дзе матка заклад хавае.

Праз секунду аб ягоны лоб бразнула шклянка.

Аднак быў Ян слабы і кульгавы, каржакаваты Сашок выцягнуў яго з-за стала і, пэўна, забіў бы, калі б не схапілі іх маладыя Штыпы. Міхалаў дзед быў тады амаль дарослы і атрымаў добрую завушыну ад раз'юшанага Сашка. Пасля Яна з Сашком ніколі не ўсаджвалі паблізу. Нападпітку абодва лезлі біцца.

Справы Янавы пасля вайны пайшлі ўгору. У апошнія два месяцы акупацыі Іванаў атрад пачаў страляць і запісаў на сябе падпал складоў у Новазыбкаве, тры напады на пастарункі й набег на ўправу ў Ветцы. Яшчэ Іван забіў пяць палякаў з «Тодта». Хаця Ян па-ранейшаму амаль увесь час валяўся на хмызняку, партызанская слава і над ім павяла крылом. Пра добрушскіх змагароў пісала нават сталічная «Праўда». А мясцовы «Добрушскі край» выдаў і фота гераічнага Яна Штыпа, які рызыкаваў, даносіў партызанам пра немцаў, пралез у самае нямецкае логава, а калі збег, цяжка паранены, то адважна ваяваў у складзе партызанскага атраду імя Клары Цэткін.

Прадзед Іван спачатку не гаварыў нікому пра стрэл у лесе. Аднак, ставіўся да сваяка быццам да малога дурнаватага дзіцяці. А для астатніх Ян быў дармаед, нікчэмны прыблуда, камень на шыі ды ў кішэні. Яна нават з хаты гналі — ляжы ды смуродзь сабе ў пуні. Ён і ляжаў пад аконцам, заклееным бруднай паперкаю, заматаны ў анучы ды ў кажух. Калі Іванавы сыны прыходзілі кідацца ў Яна шышкамі, прадзед Штып толькі ўцягваў галаву ў плечы. Каб не пісарчукова дачка Верка, напэўна, і памёр бы з голаду, бо калі мужчыны сыходзілі, малыя адбіралі ежу. Верка была ціхенькая, амаль і не размаўляла, пазірала толькі абыякава — тлусценькая, каранастая, з круглявым тварам ды рэдкімі валасамі колеру мокрага попелу. Але моц у плячах мела мужыцкую, і ад яе ляшча старэйшы Іванаў блазнюк ляцеў сракаю вышэй ад галавы. Малодшаму, аднак, дасталася куды меней, бо малодшы Полаз быў выкапаны бацька чалавечымі талентамі, і нават ляшча даваць яму не хацелася: такі ўжо прыемны радасны хлопчык. Аднак на ўсе гадасці падбіваў старэйшага менавіта ён...

Кнігі не зрабілі Яна разумнейшым, бо не навучылі жадаць разумнага, але ж цяпер ён думаў пра ўсё словамі з кніг. Яны ратавалі ад лютага холаду й болю. Пры святле Ян чытаў і перачытваў тое ж самае, пакуль яно не забівалася мёртва ў галаву — а ў цемры паўтараў без канца, і словы паўставалі з ночы, акружалі моцнаю сцяною, і запальваўся ад іх у знявечаным целе калючы шалёны агонь, і бараніў ад згубы.

Аднойчы, зірнуўшы на няўдалага свайго забойцу, Іван пакачаў галавою ды вымавіў, здзіўлены:

— Нухці-ахці, ты нібыта поп нейкі, халера ясна.

Ён ужо крыху шкадаваў, што прынёс гэтакага недарэку да свайго сховішча. І раней не шмат было розуму, а цяпер жа цалкам з'ехаў з глузду. І за свайго трымаць няёмка, і выкінуць няма за што. Дваровы прыдурань, што ж тут зробіш.

Іван памыліўся. Непрыемна. Так, Ян зрабіўся крыху дурнаватым — вядома ж, калі звацць дурнаватасцю звычку бачыць сусвет крыху інакш, чым большасць людзей побач. Ян заміраў часцяком, пазіраючы на нешта цалкам звычайнае, так, нібыта бачыў упершыню. Ён і насамрэч бачыў новае, бо не мог адразу знайсці кніжных слоў, каб падумаць пра тое, што бачыў, і стаяў, намагаючыся адшукаць іх. Але ж раней ці пазней абавязкова знаходзіў патрэбныя словы — самыя дакладныя, халодныя і бязлітасныя. Адпаведныя зіме, якая назаўсёды запаўзла ў Янаву душу. Ён не хацеў адпомсціць. Аднак, словы сказалі яму, што Іван перашкаджае і трэба ад яго пазбавіцца. І растлумачылі, якім чынам.

Вядома, пазбавіцца было нялёгка. Бо цяпер Янавым вачам адкрылася: Полазы былі самай соллю тутэйшай зямлі, жабракаватага, лайдакаватага мястэчка. Сусвет прызначыў ім месца менавіта тут, і выгнанне іх адсюль патрабавала звышчалавечай моцы. Спачатку Ян спадзяваўся, што Івана забяруць у войска — бо забіралі амаль усіх здаровых мужчын. Хадзілі чуткі, што адпраўлялі бедакоў у асаблівыя часткі, і адтуль аніхто не вяртаецца.

А Івана не забралі. Ён па-ранейшаму прыладзіўся шафёрам пры «органах» і выявіў сябе адметным экспертам па паляванні на партызан — тых, хто яшчэ застаецца ў лесе і біўся цяпер ужо з савецкай уладай. У большасці былі то палякі з «Арміі краёвай». Вось у асаблівай нянавісці прадзеда Івана да палякаў і вызначылася слабае месца...

Словы цалкам завалодалі жыццём Яна і пацягнулі яго да працы. Ён ажаніўся на каранастай Верцы, якая прызвычаілася клапаціцца аб ім, быць аб малым. А яшчэ яна адчувала, што за Янам знойдзе надзейную будучыню сабе й сваім дзецям. Прабабка Міхала была кабетаю мудраю. Новага мужа свёкар прысунуў у выканкам, таксама пісарчуком. Бо папяровай працы адразу ж стала па глы́тку, а людзей — нястача, і таму неўзабаве Ян ужо вёў цалкам усе раённыя справаздачы, захоўваў ды рэгістраваў дакументы, шукаў дадзеныя, — карацей, кіраваў памяццю мясцовай улады. Трэба сказаць, што засталося ад Добруша пасля вызвалення не шмат. Тры чвэрткі выгарала ўшчэнт, у тым ліку й былы гарадскі архіў — тое, што ацалела пасля панікі сорак першага. Аднак дзівосным чынам захаваліся паперы НКВД. У былым будынку НКВД размясціўся быў пастарунак. Немцы паважалі ўсялякія афіцыйныя паперы, акуратна іх перабралі, вышукалі карыснае (і нямала!), прыляпілі літаркі ды лічбачкі, расставілі ў шафах, і нават тыя шафы адрамантавалі, бо — орднунг.

Дык вось, ва ўпарадкаваных немцамі паперах адшукаўся данос, які калісьці напісаў былы прадзед Ян на прадзеда Івана. У даносе тым значылася: сям'я Полазаў — палякі!

Яшчэ ў верасні 44-га польскі Камітэт нацыянальнага вызвалення дамовіўся з СССР пра «абмен насельніцтвам». Гомельскія ўлады жвава ўзяліся за справу, дарма што палякаў на Гомельшчыне было — кот наплакаў. Па раёнах пайшлі пісулькі, якія надта нагадвалі разнарадкі. А ўсе афіцыйныя паперы раней ці пазней траплялі да Яна, гаспадара слоў. І неўзабаве на стол галавы райкама лёг аркушык, запоўнены драбнюткім, ідэальна роўным янавым почыркам.

Казаць, што прадзед Іван здзівіўся — значыць не сказаць увогуле нічога. Ён насамрэч ашалеў. Ён нават у гэтакай ступені страціў пачуццё рэчаіснасці, што біў кулаком па стале ў райкаме — і тым канчаткова вырашыў свой лёс. Так, ненавідзіць палякаў, палюе на іх — дык вядома ж: люцейшая нянавісць між братамі. А як наяўнае не хавай, усё роўна ж усплыве. Спаліць хату прадзеду Івану не далі. Ён толькі паспеў крыху пабурыць веранду. Трое міліцыянераў кінулі яго ў лужыну й трымалі, пакуль не супакоіўся. Старшым з трох быў чарговы Янаў сваяк.

Полазаў закінулі ў машыну і адвезлі ў Гомель, каб там пасадзіць на цягнік. А дом іх — стары й цагляны, зусім не падобны на драўляныя занядбаныя хацінкі навокал, пасярод дзівоснага сада, з пунямі і кладоўкамі — застаўся прадзеду Яну.

Міхал добра ведаў гэты дом. Бо ўсё яго дзяцінства прайшло за сценамі ў тры добрыя цагліны, моцнымі і выносливымі — на стагоддзі. Зарослы, адзічэлы сад быў дзівоснай краінаю, дзе вандравалі піраты й хаваўся знакаміты «бурштынавы пакой». А ластаўкі з-пад карнізу ператвараліся ў альбатросаў, што абвяшчаюць пагрозлівую навалу. Штыпы амаль не рамантавалі старую сядзібу, відавочна, адчуваючы, што ўлезлі на чужое. А дом трымаўся, быццам чакаў кагосьці.

І вось аднойчы — праз паўсотню гадоў пасля таго, як прадзед Ян стварыў сваю акуратную цыдулку — загрукалі ў дзверы, і на ганку з'явіўся пан Міхал Полаз, праўнук Івана Полаза.

І жыццё малодшага Штыпа панеслася пад гору...

# Вокны крыж-накрыж



Дзяніс СІДАРОК

***

*Нібы сон, страшны сон*
*Расцягнуўся на вечнасць.*

*Час бяжыць скрозь далоні*
*І ні кропляй не лечыць.*

*Груганом цёмна-шэрым*
*Крычыць наваколле.*

*Прарываюцца думкі*
*Счарнелым вуголлем.*

*Адлюстроўвае неба*
*Бяздомнасць лужын.*

*Намагаюся шлях свой*
*Адшукаць і адужаць.*

### Дачушцы Адэлі

*Кожная слязінка*
*з тваіх вочак чыстых*
*Нараджае дрэва,*
*нараджае лісцік,*
*Нараджае хмарку,*
*сонечныя промні,*
*Срэбраныя зоркі,*
*залатую поўню.*

*Кожная усмешка*
*тваіх вуснаў светлых*
*Нараджае птушак,*
*нараджае лета,*
*Нараджае кветкі,*
*яркую вясёлку,*
*Малады світанак —*
*залацісты золак.*

*Толькі хай усмешка*
*назаўжды заменіць*
*Кожную слязінку, —*
*тата будзе ведаць,*
*Што яго анёлак*
*не сумуе болей*
*І чакае з мамай*
*татачку на волі.*

***

*Халодна ўнутры*
*і халодна звонку.*
*Зачынены дзверы.*
*Крыж-накрыж вокны.*

*Шэрае неба стала люстэркам.*
*Для стомленых цел —*
*цяжкай праверкай.*

*У цьмяным святле*
*крываточыць памяць.*
*Адсутнасць паветра*
*пранізліва раніць...*

***

*Я шукаў цішыню,*
*А знайшоўшы, спужаўся.*
*Нават знікла святло.*
*Толькі холад застаўся.*

*Сярод цемры адвечнай*
*Ледзь заўважны агеньчык —*
*Думкі вабіць удалеч*
*Ад тутэйшых пустэчаў.*

***

*Сам-на-сам з сабою —*
*Шляхамі трывог і сумненняў*
*Між безлічу ценяў.*

***

*Знаёмыя твары*
*чужымі сталі.*
*Бягуць у адваротным напрамку*
*здані,*
*Каб верыць таму,*
*у што не верылі самі.*

***

*Усё больш сівізны ў валасах,*
*Як прыкмета*
*душэўных хістанняў.*
*Павуціннем агортвае страх,*
*Нібы слізкай*
*балотнаю тванню.*

*Попел спаленых*
*светлых надзей*
*Віхурыцца —*
*у жальбах ветру.*
*Недзе побач курчыцца цень*
*У канвульсіях,*
*ледзьве прыкметных.*

*Жоўты факел апошняй запалкі.*
*Крэматорый у чорным тумане.*
*Чалавекам здавацца мала*
*Сярод хворых цынічных зданяў.*

*Лабірынтамі сэнсаў забытых*
*Шлях ляжыць да сваёй існасці.*
*З аскепкаў вокнаў разбітых*
*Ты складаеш вечнае, чыстае.*

***

*Свет нязменны*
*у шматбаковасці*
*Неспазнаных зданяў-хімер.*
*Толькі, мабыць, невыпадкова*
*Чалавек —*
*самы страшны звер.*

*Міласэрднасць —*
*бы кепская мода —*
*Адышла ў мастацкі нябыт.*
*І нягоднасцю стала годнасць,*
*Чалавечнасць знікае, як міт.*

*Звер упарта ірвецца вонкі,*
*Выбачэнне й любоў забыўшы,*
*І баіцца вечнасці дотыку,*
*Што яго назаўсёды сцішыць.*

*Застанецца попелам шэрым*
*На бязмежным сметніку лёсу,*
*Між замшэлых зданяў*
*хімерных*
*Ўшчэнт забыты,*
*атручаны злосцю.*

***

*І хоць фарбы страцілі колер,*
*Ў сэрцы гояцца*
*годнасць і воля,*
*А жаданне жыць палымяна*
*Зззяннем паўночным пралунала.*

***

*Як забыць мне гэтую восень*
*У сутарэннях*
*замшэлых муроў?!*

*Як мне не страціць*
*апошні розум*
*У гэтай пустэчы*
*бяздонных сноў?!*

***

*Прыгожыя сны*
*над высокімі стрэхамі*
*Шукаюць анёльская міласці,*
*мусіць,*
*Якой бы сумотай*
*ні дыхала рэха,*



Фота pixabay.com

*Няскораны лёсам,*
*я засмяюся.*

*Пранізлівы голас*
*сярод пустэчы,*
*Як звон прагучыць —*
*моцна і цвёрда.*
*Які б цяжар ні ламаў*
*мне плечы,*
*Яго пранясу я —*
*упарта і годна.*

***

*Сумненні,*
*сумненні,*
*сумненні...*
*Упарта ліліся струменем.*

*Дарэмныя пошукі сонца*
*У лабірынце бясконцым.*
*Яскравыя промні вар'яцтва*
*Кружыліся ў здзеклівым танцы.*

*Знямелыя пальцы сціскалі*
*Халоднае цела,*
*забытыя мары.*

***

*Ім ніколі ўжо не адмыцца,*
*Калі б нават яны і схацелі.*
*Не ачысціцца, не адмаліцца*
*Гэтым шэрым няісным ценям.*

*Уявіўшы сябе багамі,*
*Яны крэмзаюць чыстыя лёсы,*
*Топчуць у брудзе*
*любоў і каханне,*
*Звар'яцеўшы ў шаленстве*
*і злосці.*

*Ім законы сусвету смешныя,*
*Ім мінулае стала будучым.*
*За дагледжанай знешнасцю*
*Адно бездань —*
*пустая, бяздушная.*

*Шмат хто думае:*
*сюр і абсурд,*
*Толькі блытае сэнс ды памеры.*
*Неба вынесе свой прысуд*
*Нават тым,*
*хто ў гэта не верыць.*

***

*Кажуць, пакуты трэба,*
*Каб быць сапраўды жывым.*
*Кажуць, што толькі неба*
*Мае права судзіць.*

*Верацъ, што выбар адвечны*
*Будзе зроблены кожным,*
*Што простыя важныя рэчы*
*Знойдзе, хто хоча і зможа.*

***

*Прыемным для вока блакітам*
*Асвечана чыстае неба,*
*Учорашні снег разліты*
*Па шэрай бетоннай глебе.*

*З душы аслабелай, зімовай*
*Вясны прарываецца голас*
*І водарам свежым, няўлоўным*
*Знішчае сумоту і кволасць.*

*Часцей сарамлівае сонца*
*Усмешкай зваротнаю песціць.*
*Птушыныя песні бясконцыя*
*Рэхам разносіць вецер.*

*Люты аддаў усе сілы.*
*Вірус. Не спіць наваколле.*
*І сэрца гудзе нястрымна,*
*І хочацца жыць*
*яшчэ болей.*

### Кацярыне

*Імя тваё — лёс мой адвечны*
*З той самай першае сустрэчы.*

*Я выкідваю з памяці кожны сон,*
*Калі ў ім не знаходжу цябе,*
*Любы дзень без цябе,*
*як праклён*
*І як шлях,*
*што ў нікуды вядзе.*

*Я знішчаю дашчэнту ўсе думкі,*
*Дзе не бачу тваіх слядоў,*
*І так прагну ўсіх непачутых*
*Табою прамоўленых слоў.*

*Золка мне без тваіх промняў,*
*Слупянею без воч тваіх,*
*Бо ты сонца маё і поўня*
*Між абшараў халодных, пустых.*

***

*Калі нават загінуць зоры*
*І анёлы пра нас не ўспомняць,*
*Холадам вечным ахутае морак,*
*Адгукнецца пустэчаю поўня,*
*Юда зможа звацца Хрыстом,*
*Цнота будзе ганебным словам,*
*Ява стане кашмарным сном,*
*Белы колер заменяць чорным,*
*Еднасць будуць шукаць з агнём,*
*Крыж паставяць на чалавечнасці —*
*Я заўсёды буду з табой*
*У горы,*
*радасці,*
*вечнасці.*

***

*Не думаў, што родны горад*
*Стане маёй Галгофай.*
*Сустрэне няветліва, зморана*
*Ранішняй смуткавай слотай.*

*Гляджу ў забітыя вокны*
*З надзеяй убачыць сонца,*
*А горад, пануры і мокры,*
*Раіць адно: быць моцным.*

*Калісьці адчыняцца дзверы,*
*На крыж ператруцца крылы,*
*Чакае мяне Галгофа*
*У ззянні надзеі і сілы.*

***

***Быў. Ёсць. Буду.***
***Уладзімір Караткевіч***

*Быў. Ёсць. Буду.*
*Пасля ўсвядоміцца кім —*
*Праведнікам ці юдам,*
*Пачвараю ці святым.*

*Недзе спрэс гэтых і тых*
*Рэхам світанкавай дуды*
*Між тваіх валасоў залатых*
*Быў. Ёсць. Буду.*

*Далонямі ловячы дождж*
*Верыць, што розум магутны*
*Не можа без сэрца ўсё ж.*
*Быў. Ёсць. Буду.*

*Стоячы хоць на каленах —*
*Шукаць на прасторах людных*
*Годных сляды і сумленных.*
*Быў. Ёсць. Буду.*

*Скрозь час, адлегласць і боль*
*Шчаслівцам альбо пакутным*
*Ў старонцы сваёй ці чужой*
*Быў. Ёсць. Буду.*

*Буду штораз на яве і ў сне*
*Дзякаваць небу паўсюднаму*
*За зорку, спасланую мне,*
*Буду.*

# Заява

Генадзь МІШЧУК

Тым панурым кастрычніцкім днём малая Таццянка ўпершыню ўбачыла, як плакаў яе тата. Ён сядзеў на дубовай калодзе, на якой звычайна секлі дровы, звесіўшы пасівелую да часу галаву, не ў сілах вытрымаць тое, што адбывалася на яго хутарскім падворку.

Двое актывістаў мясцовага калгасу абдзіралі страху яго хаты, а трэці — малады, хударлявы Васіль — разбураў комін. Частку цаглін ён скідваў уніз, а частку шпурляў у яго чорнае задымленае нутро.

— Цябе ж папярэджвалі яшчэ на пачатку вясны: перавозь хату на цэнтральную сядзібу, а ты, гляджу, надта ўпёрты, — крычаў зверху Васіль, робячы сваю «партыйную справу».

Сцяпан — Таццянін бацька — ціха, праз слёзы адказваў:

— Чым жа я звязу, дзе сілы набрацца? Ты ж ведаеш, што ні ў мяне, ні у маёй жонкі не засталося радні, і я з вайны прыйшоў калечаны. А конь мой — адна назва. Дзякуй Богу, што хоць агарод здужвае абрабляць. Чаго мяне толькі на фронце не забіла?..

Таццянка разам са старэйшымі сёстрамі і братам, учапіўшыся за матчыну спадніцу, тулілася да роднага чалавека і таксама плакалі.

— Вось толькі не трэба мяне жалобіць. Дзяцей нахляпаць сілы хапіла. Ды не адзін ты такі з вайны вярнуўся. Аднак твае суседзі больш сумленныя і рахманыя людзі ды, заўважу табе, палітычна падкаваныя, да канца лета хаты пазвозілі. А ты, як контра варожая, па-добраму не разумееш.

— Васілька, злітуйся, — не вытрымала Сцяпанава жонка Ганна, — ты паглядзі на яго — у чым толькі душа трымаецца. А як жа мы дзетак будзем гадаваць — зіма ж не за гарамі. Дай адтэрміноўку да будучай вясны, мо тады лягчэй будзе, можа, нешта і зладзіцца…

— Да вясны?! Ты мне яшчэ скажы да другой пяцігодкі. Распанаваліся, гляджу, на сваім хутары, зусім ад рук адбіліся. Зараз паразумнееце. Краіна з кален устае, а яны, бач, за свае харомы трымаюцца. Лінія партыі якая? Па-новаму вам тлумачыць?! Дык я не ганарлівы, растлумачу. Загадана далучаць хутары да вёсак, каб будаваць светлае камуністычнае заўтра, калі ласка, выконвайце, ці вы з лініяй партыі нязгодны?! Бедакамі тут прыкінуліся, а хто цяпер не бядуе?! — крычаў зверху Васіль, і рэха адгалоскам несла яго словы па хваёвым бары, што глухой сцяной абступаў Сцяпанаў хутар.

— Ты набедаваўся, — глуха сказаў Сцяпан, выціраючы слёзы, — хто не ведае тваю «партызанку»?..

Васіль як уджалены аж падскочыў на рашце.

— Ты на што гэта намякаеш, сволач недабітая?!

— А на тое і намякаю, як ты каморы і скрыні людскія абтрасаў, так як цяпер маю дамоўку, «абаронца», тваю душу…

Васіль як віхура зляцеў з даху хаты і моцна схапіў Сцяпана за грудзі.

— Ты, навалач… — Ён не гаварыў, ён шыпеў, як раз'юшаная змяя. — Вы ўсе сведкі, — звяртаючыся да паплечнікаў на даху, Васіль трасануў з усёй сілы Сцяпана, ад чаго старая ватоўка не вытрымала і «раз'ехалася» на спіне франтавіка. Ад убачанага дзеці заплакалі на ўвесь голас.

— Табе не жыць, — шыпеў Васіль, шклянымі вачыма свідруючы Сцяпанаў твар.

Ганна як падкошаная ўпала ў ногі «праўленцу».

— Васілька, злітуйся! Я ж цябе хрысціла…

Сцяпан, даведзены да крайнасці, быў гатовы на ўсё, так, як тады, пры фарсіраванні Одэра, гарэў помстай за сваіх загінулых таварышаў, за свайго забітага стрыечнага брата, якога сам пахаваў на беразе ненавіснай яму ракі. Увесь гэты расклад спраў падаўся Сцяпану простым: вось ён, вораг, і яшчэ ёсць моца ў яго руках, каб скруціць галаву гэтаму недамерку. А там як Бог дасць, бо гэта не жыццё…

— Васіль!.. Сцяпан!.. — Ганна стала сцяной між мужчынамі, адрываючы рукі малайца ад патрапанай Сцяпанавай ватоўкі. Двое Васілёвых паплечнікаў, пазіраючы з даху хаты на тое, што адбываецца ўнізе, ісці на дапамогу свайму начальніку марудзілі. Нарэшце Ганна здолела растаўхаць мужчын. Васіль крыху ахалануў.

— Адзінае, што можа цяпер цябе выратаваць, дзякуючы табе, хрышчонка, — «хрышчонка» ён вымавіў з такой агідай, што стала няёмка ўсім прысутным, — і пакуль не наламалі дроў, падпішы паперу і бывай да часу здаровы.

Ён рэзка працягнуў ліст з вучнёўскага сшытка гатоваму ісці ў атаку Сцяпану. Гаспадар нетаропка прачытаў змест напісанага прыгожым почыркам дакумента:

*В управление колхоза имени «Новый путь» Луковского сельсовета от гражданина…*

Далей ішоў прагал, куды Сцяпану трэба было ўпісаць сваё імя, імя па-бацьку і прозвішча.

*Заявление*

*Прошу управление колхоза имени «Новый путь» принять меня в колхоз имени «Новый путь» вместе с моей семьёй, так как хочу работать в колхозе и обобществить с/хоз инвентарь, лошадь и семена на посев озимых. Прошу не отказать в моей просьбе.*

*10. X. 1956 г. Проситель…*

Выбару не было. У памяці ўсплылі шчаслівыя імгненні закладкі хаты. Адмысловыя дубовыя падвалкі, якія яны цясалі разам з бацькам колькі дзён запар. Жылі тут жа, у часова змайстраванай зямлянцы. Шчыравалі ад ранку да ночы. Бацька, хоць і сталага веку, аднак меў моцу ў руках. Вянец за вянцом хата прырастала сценамі. Да халодных восеньскіх дажджоў паспелі накрыць дах.

Шчасце доўжылася нядоўга. Спачатку памёр бацька, а потым грымнула вайна. Як перажылі акупацыю — адзін Бог ведае. Усе хутарскія сядзібы фашысты спалілі. А іх хата цудам засталася. Прайшоўшы фронт, пакалечаны ды жывы вярнуўся Сцяпан дамоў. Галодныя 1946, 47-ы… Зноў здолелі выжыць. Думалі, каб толькі горш не было…

«Выбару сапраўды няма, як і праўды на божым свеце», — падумаў Сцяпан і здранцвелай рукой падпісаў паперу.

— Нядзельны тэрмін: каня, інвентар і збожжа — на цэнтральны склад, а там паглядзім, як вам далей жыць.

Васіль вырваў падпісаную заяву і разам з паплечнікамі падаўся да калгаснай падводы. Паліўся халодны восеньскі дождж, забарабаніў па голых кроквах і раштах, па адкрытым гарышчы, якое без саламянай страхі было бязбронйым перад яго навалай.

— Праўленне калгасу разгледзіць тваю справу ў найбліжэйшы час. Радуйся, табе пашанцавала, сёння я добры, вельмі добры, — не азіраючыся, на ходу вымавіў Васіль, пакідаючы Сцяпанаў падворак.

Падвода нетаропка папаўзла па лясной дарозе, астаўляючы чорны след на раскіслай зямлі.

Выціраючы слёзы, перамешаныя з буйнымі кроплямі дажджу, прыгаломшаны Сцяпан пайшоў ладзіць са скінутых цаглін часовую печку, каб адварыць дзецям чыгунец парэпаных бульбін.

*P. S. Заява, выкарыстаная ў апавяданні, аўтэнтычная, з сямейнага архіву аўтара.*

# Над некропалем свету — стагоддзі

Ян КАСПРОВІЧ

### Куст дзікай ружы ў цёмных смярчынах

*У скал завалах цёмнасмярчынскіх,*
*Дзе паўлінавокія дрэмлюць ставы,*
*Куст дзікай ружы ў чырвоных пырсках*
*Малюе след свой на чорных скалах.*

*Каля паднożжа трава буяе,*
*А збоку — строма гары высокай,*
*І касадрэвіны ўсю навокал*
*Прастору голлем перавязалі.*

*Самотны, сумны, задумны нейкі,*
*Ён свае скроні туліць да сценкі,*
*Нібы страшыцца злавеснай буры.*

*Навокал ціша… Ліст не здрыгнецца.*
*А спарахнелая лімба ўецца,*
*Нібы бароніць куст ад віхуры.*



Фота С. Прудскага

Браніслава АСТРОЎСКА

### Журавы

*Над пожняй пустой і панылай,*
*Над пажухлай травой і над ярам*
*Адляталі кліны жураўліныя…*

*Доўга-доўга рассякалі бязмежжа*
*Пад аблокамі.*
*Ляцелі па шэрым небе,*
*Над голым полем і борам,*
*У пустыцы безнадзейнай восеньскай,*
*Адляталі, не чуючы нікога, нічога…*

*Шнуры за шнурамі, шнуры за шнурамі,*
*Гэй, гэй,*
*Ляцелі над палямі,*
*Знікаючы,*
*Як сон… як сон…*

*Помню… жыццё маё прайшло гэтаксама,*
*Як тыя журавы, што ў імгле адлятаюць…*

*Як тыя журавы…*

Францішак НАВІЦКІ

### Елка

*Лёс кідаў яе так бяздушна,*
*сурова, пагардна*
*Сярод курганоў векавечных*
*і горных разломаў,*
*Яна ж ажывала,*
*адольвала боль перуновы,*
*Маланкі, што цэлілі ў грудзі*
*і сэрца няшчадна.*

*Тытаны з гары на яе паглядалі*
*з усмешкай,*
*Яна ж, немаўлятка,*
*змагалася з смерцю нястомна*
*У змрочнай цясніне,*
*было дзе няўтульна і цёмна,*
*Сваю бараніла цяжкую*
*міжгорную сцежку.*

*Дарэмна халодныя скалы*
*трымалі карэнне плячыма,*
*А тыя ўпіваліся ў грудзі іх*
*жорстка-тугія —*
*Вада, як аркан,*
*навісала з-пад неба нястрымна.*

*Той бой быў упарты, кароткі,*
*і трэснулі скалы сівыя.*
*Закончана ўсё — аскабалкі*
*нясуцца ў стрмніну…*
*І над некропалем свету*
*стагоддзі ізноўку застылі.*

Вацлаў ВОЛЬСКІ

***

*Імчымся ў шалёным віры на арбітах,*
*У космасе змрочным планет дамавіны,*
*Як марскіх крэйсераў сталёвыя спіны,*
*Падчас застываем на скалах гранітных.*

*Сфінкс з тварам*
*застыгла-каменным ільвіным*
*Зялёныя пасмы кладзе на граніты*
*У думцы глыбокай аб часе забытым,*
*Вартуе жывых цел магілу штодня,*
*штохвілінна.*

*Пад позіркам зорак бліщчаць*
*саркафагі чарноццем —*
*Выявы трагічных, панылых,*
*як смерць, сілуэтаў,*
*А побач ляжаць прызабыта*
*сшарэлыя косці.*

Багуслаў АДАМОВІЧ

### Кузня

*У бездані вечнай, дзе дым ліжа краты,*
*Ёсць кузня Хаосу… Тытаны пазменна*
*Працуюць, прыкутыя, дружна,*
*заўзята —*
*З касмічнае глыбы куюць свет страшэнны.*

*У сполахах робяць нязгасных пажараў,*
*І глыба пад стук малатоў паддаецца,*
*Агністых вясёлак крывавяцца хмары —*
*Тут будзе зямлянам выкутае месца.*

*Гудзе горн, і Вечнасць змрок асвятляе.*
*Два волаты, кузня ды іскры — бясконца*
*Ляцяць у бязмежны прастор і згасаюць…*
*З тых іскраў адна — наша светлае сонца.*

***Пераклаў з польскай мовы***
***Мікалай МІШЧАНЧУК***

# За радкамі — жыццё

***Вандроўнік. Дарогамі Міколы Купрэева: успаміны, эсэ, прысвячэнні, вершы і проза. — Мінск, Выдавец Цымбераў Р. М., 2014***

В. Г.




Кажуць, што прадчуванне пачуцця (ці адчування) можа быць і саладзейшае за пачуццё ці адчуванне.

У мяне быў шыкоўны настрой — паездка ў Мінск удалася: з унукамі пагуляў, зуб палячыў, сталічнай кавы папіў. З апошнім папяровым (вакзальным) кубкам чарговай порцыі амерыкана я стаю на эскалатары, які вязе мяне на перон. Мой вагон — трэці, я ведаю, што ён будзе стаяць акурат ля таго месца, якое адведзена для курэння. Я буду курыць, па глытку піць каву і проста спінай адчуваць у сваім заплечніку купленую паўгадзіны назад кнігу. І я ведаю: у мяне ёмкае месца ля акна, можна без страху выцягнуць ногі. І дзве з паловай гадзіны шляху.

Буду чытаць. Ведаю, што там будзе цікава. Усё цікава. Бо пра Міколу Купрэева нельга напісаць нецікава.

Ці ж гэта не шчасце?

Адчуванні спраўдзіліся. Хоць дачытваў кнігу я ўжо дома, похапкамі. Але для кнігі тое было не страшным — льга было спыніцца на любым успаміне і прадоўжыць чытанне пазней з нейкага іншага ўспаміну. Хіба што адно вымагала чытання ад а да я — «Лісты з млына», аповесць Міколы Купрэева, што друкуецца ў гэтай кнізе (разам з некалькімі вершамі). Бо яна — згустак светлай інтымнасці і прозы жыцця. Тут трэба для чытання нейкая медытатыўная падрыхтоўка, ці што. Адзінота. І каб не гуку знешняга. Каб як на тым старым млыне…

Сапраўды, укладальнікі зрабілі кнігу надзвычай разнастайнай. І гэтая разнастайнасць найперш у людзях, які згадваюць Міколу Купрэева, сустрэчы з ім, нейкія падзеі. Розныя стылі напісання, розныя акцэнты, розная шчырасць. Тут — акадэмічны падыход Ціхана Чарнякевіча да творчасці Паэта, журналісцка-філасофская бяседа Леаніда Галубовіча з Купрэевым, правінцыйныя бясхітрасныя згадкі Святаслава Кажадуба. І шчымлівыя ад сваёй жыццёвай адкрытасці радкі лістоў Ганны Хадаровіч.

Што цікава: у адносінах да Купрэева паўстаюць характары, асобы. Тут постаць паэта — бы тое люстэрка, у якім праяўляюцца самі расказчыкі. І дзівішся: наколькі мы ўсе розныя, наколькі розныя ў нас каштоўнасці, на якіх розных мерыдыянах знаходзяцца наша «галоўнае»… І ты, як чытач, уваходзіш у гэтую кагорту са сваім меркаваннем, якое ёсць сумай ад прачытанага і, магчыма, твайго ведання творчасці Паэта і яго самога.

Тут хапае разважанняў на адвечнае пытанне: што нам важней — чалавек у творцы ці творца ў чалавеку? Які адсотак «нармальнасці» мы дапускаем у творцы?

…За радкамі — жыццё. Кавалкамі, эпізодамі. І ад гэтай разнастайнасці постаць Паэта пачынае набрыньваць жывой сілай.

Мне здавалася, я шмат ведаў пра Купрэева. Чытаў многае, і з аповедаў ягоных сяброў — Міколы Рымача, Міколы Антаноўскага, Ганны Хадаровіч… Дый у Івацэвічах Купрэева ведалі ў свой час многія… Але як жа мала я знаў, аказваецца! Сапраўднае адкрыццё — лісты Купрэева да жонкі. Такім Купрэева я не ўяўляў… І — было нечага балюча. Крыўдна за Паэта. Чаму — вы самі, мабыць, здагадаецеся, калі пачытаеце.

І яшчэ дзякуй укладальнікам за тое, што расшукалі тыя вершы М. Купрэева, якія не ўвайшлі ў зборнікі, а былі рассыпаныя па літаратурных старонках самых розных газет.

***P. S.*** А яшчэ падумаў: добра б было мець серыю такіх кніг пра нашых выбітных асоб. Каб не адзін там вёў рэй і прымяраў на сябе мантыю суддзі суда апошняй інстанцыі. А вось каб так: дзясятак самых розных людзей выказаліся пра Асобу…

# Падлеткавае фэнтэзі

***Валер Гапееў. Вольнеры. Бясконцы дзень. — 2014***

Зося ЛУГАВАЯ




«Вольнеры» — гэта беларускае фэнтэзі на падмурку тутэйшай міфалогіі. Героі першай кнігі — менскія падлеткі Цімафей (Цім), Крысціна (Крыс) і Эдуард (Эд). Фармальна яны ўсе аднакласнікі, але Эд знаходзіцца на хатнім навучанні, бо праз хваробу ўжо некалькі гадоў перасоўваецца на інвалідным вазку. Цім і Крыс незалежна адно ад аднаго пачынаюць бачыць істотаў з іншасвету. А пасля, крыху сцяміўшы, што да чаго, самі трапляюць туды, каб аднавіць баланс паміж Дабром і Злом. Менавіта тады, калі яны па сваёй волі прымаюць рашэнне бараніць наш свет ад Зла, яны становяцца вольнерамі.

Сюжэт даволі пакручасты. На самым пачатку Жыва, багіня жыцця і вясны, падзяліла сусвет на два: міфічныя істоты засталіся ў адным, а людзі перайшлі ў другі. Берагіня ж стварыла кубак, з якога вада лілася ў крыніцы чалавечага сусвету. Дзякуючы яму людзі маглі адрозніць праўду ад няпраўды, а дабро ад зла…

Зладзейка Лацынра, якая невядомым шляхам прыйшла ў іншасвет, захацела займець кубак Берагіні, каб валадарыць у свеце людзей. Слугі Лацынры скралі кубак, але па дарозе разбілі яго. Пярун абгарнуў аскепкі глінай, а крумкачы разнеслі іх па двух сусветах. Цяпер Лацынра шукае гэтыя аскепкі. Колькасць аскепкаў вызначае адсоткак злосці, абыякавасці і чалавечай абмежаванасці ў свеце.

Валера Гапеева раней крытыкавалі за патрыярхальнасць, схематычныя жаночыя персанажы, а часам і за сэксізм. Але ў апошніх кнігах аўтар і гучыць сучасна, і грунтоўней прапрацоўвае жаночыя вобразы.

У другой кнізе цыкла аўтар мяняе апавядальніка. Калі ў «Прадвесці» пра прыгоды вольнераў расказваў Цім, то цяпер мы бачым падзеі вачыма Крыс. Акрамя гэтага, замест Эда да вольнераў далучаюцца яшчэ пяць аднакласнікаў: мацак Лёкса, мастак Яныч, разумнік Сяржук, прыгажуня Ніка і ціхоня Волечка. Парушыўшы безліч правілаў, падлеткі збягаюць са школы-казармы і спрабуюць знайсці дарогу да вёскі, дзе раней знаходзіўся праход у іншасвет. Знайсці яго няпроста, бо цяпер усё адбываецца не так, як папярэднія разы. Калі ж вольнеры туды трапляюць, аказваецца, што кожнаму з іх адведзеная свая роля. На ўсякім этапе выпрабаванняў хтосьці адзін мусіць застацца, каб іншыя рушылі далей. Напрыканцы Крыс застаецца адна, і апошняе рашэнне ёй даводзіцца прымаць самастойна.

Сама ідэя падлеткавага фэнтэзі, якое абапіраецца на беларускую міфалогію, — файная, але калі першы том чытаўся даволі бадзёра, то другі хацелася б скараціць прынамсі на траціну. Сюжэт размываецца вялікай колькасцю зацягнутых дыялогаў. Героі шмат рэфлексуюць, прызнаюцца ва ўласных заганах, але робяць гэта задоўга. Ёсць маналогі амаль на дзве старонкі. Прынцып «не расказваць, а паказваць», надзвычай актуальны менавіта для падлеткавай літаратуры, аўтар мала выкарыстоўвае. Усё гэта зніжае тэмп апавядання, тэкст губляе дынамічнасць.

У тэксце шмат цытат і адсылак да іншых аўтараў: ад класікаў беларускай літаратуры да сучасных класікаў рок-сцэны: «У нас — у мяне і маіх сяброў — ёсць магчымасць вярнуць свет, у якім вы, мама і тата, летам бываеце ў археалагічных экспедыцыях. І спяваеце песню “Простыя словы, простыя рэчы”. Той свет, — я павярнулася да класнай, — дзе, Яніна Дзмітрыеўна, Васіль Быкаў — не забаронены пісьменнік. А любімы і паважаны. І Караткевіч не забаронены, і “Каласы пад сярпом тваім” мы вывучаем у школе, а Алесь Загорскі — ваш любімы герой».

Асобна хочацца адзначыць фігуру Дабрахожага. Прыязны дзядок, што зазірае ў хату, у якой на ноч спыніліся героі, пачынае спакушаць іх вярнуцца ў чалавечы свет. Прамаўляе ён так ладна, што ажно хочацца згадзіцца. А пасля разумееш: гэта той самы морак, якім тлумяць галовы людзям тыя, хто маюць уладу ці прагнуць яе: «Трэба ва ўсім шукаць радасць, тады і шчасце знойдзецца! Ад дабра не дабра шукаюць, а лепшае — вораг добрага. Хіба ж не так? У вас там будучыня акрэсленая, клопат пра вас вялікі, а ў іншым свеце як стане? А свет жорсткі, свет злы! Колькі расчаравання вас чакацьме, колькі непрыемнасцей наперадзе, слёз ды крыўды, расчаравання ды шкадавання сустрэнеце? А тут цярпенне ды памяркоўнасць свой плён прынясуць, трэба толькі яго дачакацца. На гэтым свет і стаіць, а не на пошуках невядома чаго…».

Што чакаць у трэцяй частцы «Вольнераў»? Мяркую, раскрыцця тэмы здрады, бо цягам апошняга падарожжа ў іншасвет Цім і Крыс пачынаюць падазраваць Эда. Сустрэўшыся з былым сябрам у фінале другой кнігі, яны амаль пераконваюцца ў адступніцтве. Але — не ўсё так проста…

***bellit.store***

# За павароткай рэчышча

***Міхал Бараноўскі. Volumen.3. — Мінск, Выдавец Цымбераў Р. М., 2014***

Валянціна КАРОТКІНА

Калі ты знаёмы з вершамі значна раней, чым яны сабраліся ў кнігу, казаць пра іх нешта досыць няпроста. Суб’ектыўнасць — яна такая. Але ў той жа час, калі ты больш-менш уяўляеш корпус тэкстаў, напісаных аўтарам, за час ад моманту выхаду папярэдняй кнігі, чытаючы новую, сачыць за тым, што ў яе ўвайшло, надзвычай цікава і нават хвалююча. За лёс некаторых радкоў перажываеш асабліва.

Новая кніга Міхала Бараноўскага «Volumen.3» — томік, адгарнуўшы вокладку якога, давялося прапусціць праз сябе цэлую купу самых розных адчуванняў. «Вежа зваўчыных костак»: у ёй востра, нібыта паўсюль натыкаешся на штосьці балючае, і ў гэты ж час цябе працінае сцюдзёным ветрам восеньскага міжсезоння. Раздзел «Год замыкання зямлі» — тут адначасова і пра глабальнае эмпірычнае спасціжэнне сусвету, і пра прэпарыраванне да душэўных драбніц. А вось «Зона рызыкоўнага земляробства» з карацелькамі пункціраў і хоку апынулася надзвычай утульнай, нібыта ўсаджваешся ў вялікі фатэль пад святлом лямпы і ўхутваешся цёплым пледам, і няважна, што ты чытаеш кнігу ў метро ці ў чыстым полі…

У «Volumen.3» няма той глыбіні, у якую нырaеш у «Volumen.2», няма такой электрычнасці і магнетызму. І смак па прачытанні гэтых кніжак застаецца розны. Як і само чытанне. Калі спрабаваць падабраць вобразы да знаёмства з гэтымі кнігамі, то чытаць «Volumen.3» — гэта як падарожжа па рацэ, калі ты не ведаеш, як будзе паводзіцца плынь і што з’явіцца за наступнай павароткай рэчышча… А «Volumen.2» — гэта як каштаваць мёд з лугавых кветак… калі смак з кожнай секундай змяняецца, грае новымі нотамі і пасля застаецца яшчэ надоўга.

Да «Volumen.1» колькі не спрабую, вобраз не падбіраецца… дакладней ёсць толькі адзін: музыка, канцэртная, і чытанне са сцэны… але гэта не пра асацыяцыі, а пра ўспаміны канцэртаў гурта «Нельга забыць» і самаго аўтара.

Усе тры кнігі вельмі розныя. І кожная крутая па-свойму.

І хай тут будзе па адным вершы з іх. Не ўсе самыя любімыя, не. Але тыя, якімі хочацца падзяліцца цяпер.




*

*Нешта нейкае…*
*Пішчыць, ейкае…*
*На рукі просіцца…*
*Вокам косіцца…*
*Вые, чмокае…*
*Чортам скокае…*
*Целам туліцца…*
*У гулі гуліцца…*
*Абдымі, вазьмі…*
*Дык расплачацца…*
*Ну-ну-ну скажы…*
*Раскудлачыцца…*
*Што ты, гэткае…*
*Дзіва-дзіўнае…*
*Нешта нейкае…*
*Незабыўнае…*

(З «Volumen.1» (2016))

*

*маўчанне дастала*
*ды лепей маўчаць*
*калі табе не стае «сказала»*
*гучанне прамоўленай пустаты*
*больш неагучанага дастала*
*што кажу і нашто кажу*
*і ці маю на нешта права*
*прабачэння ў вас прашу*
*за дождж што выпаў так нечакана…*

(З «Volumen.2» (2020))

*

*за мінулыя содні без перамен*
*калыхае агонь ад зары да гары*
*не хапае вачэй каб пабачыць любоў*
*не на месцы дарога дадому ляжыць*
*ўкрыжаваны на ростанях заўтрашні дзень*
*родны голас знікае па той бок ракі*
*разліковы квіток развітальны матыў*
*мы такія як ёсць хоць цалуй хоць забі*
*утравелая памяць ўзарваны дзірван*
*пералётныя словы халоднай вясны*
*ў раскіданыя гнёзды нясуць птушанят*
*ўсё што маю сказаць ў далані буквара*
*красавік тваіх вуснаў гарыць на шчацэ*
*на жыццё калі ласка мяне блаславі*
*каб не страшна глядзець было ў цемру вакна*

(З «Volumen.3» (2024))

# Мастацкі выклік грамадству: Элізабэт Гаскел



Таццяна ШЫПІЛАВА

Англія — краіна парадоксаў. Яе пурытанская натура не даруе выйсця за строга абмежаваныя рамкі, не трывае паўтонаў, таўруе за парушэнне правіл. І Англія ж падарыла столькі вялікіх імёнаў, што ніякіх пальцаў не хопіць загінаць. А самае галоўнае — менавіта ў гэтай краіне «прагрымелі» першыя жаночыя імёны, якія змянілі падыход да жаночай прозы, якую доўгі час лічылі другагатунковым прадуктам і сур'ёзна не ўспрымалі. Жанчыны пачыналі свой шлях часцей за ўсё пад псеўданімамі. Сёстры Брантэ апублікавалі свой першы паэтычны зборнік пад назвай «Вершы Карэра, Эліса і Эктона Белоў», доўга трымалі свае сапраўдныя імёны пад сакрэтам і вырашылі раскрыць толькі тады, калі выдаўцы пусцілі чутку, што «Незнаёмку з Уайлфэлд-Хола» напісаў аўтар «Джэйн»: тады Шарлота і Эн паспяшаліся ў Лондан, каб заявіць: «Мы — тры сястры». Эмілі, дарэчы, з імі не паехала і вельмі злавалася, што яе гендэрную прыналежнасць раскрылі. Джордж Эліёт, насамрэч Мэры Эн Эванс, таксама выдатна разумела: калі хочаш, каб ацанілі не аўтара, а тэкст, трэба не прыцягваць увагу сваім жаночым імем.

А вось місіс Гаскел, адна з найзначных пісьменніц віктарыянскай эпохі, якая ўваходзіць у «бліскучую плеяду» ангельскіх раманістаў (Elizabeth Cleghorn Gaskell, 1810—1865), так не разважала. Яна ніколі не саромелася і не хавалася. Усе яе тэксты выходзілі пад сапраўднымі імем і прозвішчам. Дачка і жонка святара, яна была паважанай жанчынай, пачала пісаць, калі ў яе памерла дзіця. Страціўшы сына, каб пазбавіцца ад душэўнага болю, яна занялася творчасцю. Але вось прыкмета выключнай натуры: пачала пісаць не тыповыя гісторыі кахання, не гатычныя раманы, не сентыментальную прозу. Не. Яе цікавіла іншае. «У мяне шмат "я"; у гэтым уся бяда. Адно з маіх "я", як мне здаецца, сапраўдная хрысціянка (толькі людзі завуць яе сацыялісткай і камуністкай), іншае з маіх "я" — жонка і маці... А потым у мяне ёсць яшчэ адно "я", з развітым густам да прыгажосці і выгоды... Як мне прымірыць усе гэтыя варагуючыя істоты? Я стараюся заглушыць саму сябе (маё першае "я"), кажучы сабе, што ўсё павінен вырашаць Уільям і што яго пачуццё справядлівасці павінна быць для мяне законам. І так яно і ёсць, — ды толькі не зусім так...»

І гэтае яе першае «я» ўзяло ўсёткі верх: яна ўзялася за пяро і адлюстравала свет працоўных. Свет працоўных вачыма жанчыны, якая спачувае, якая ўбачыла ў іх «багата адораных прыродай, арыгінальна думаючых людзей, якія тонка адчуваюць». Аб працоўных (як і аб жанчынах) ужо хто да таго моманту толькі не пісаў! Ужо Дызраэлі (пісьменнік і палітычны дзеяч) выпусціў свой раман «Сібіла, або Дзве нацыі» — нават сама назва адсылае да праблемнай дваістасці: «дзве нацыі» — гэта, вядома, бедныя і багатыя, а імя ў загалоўку намякае на важнасць жаночага вобразу ( ну і любоўнай лініі, з ёй звязанай, куды ж без гэтага), каб не занадта зацыклівацца на апісанні нягод жыцця працоўнага насельніцтва Англіі. Ужо заявіў пра сябе на ўсю моц Дзікенс са сваімі раманамі аб няшчасных і бяздольных, аб рабочых дамах, пра кінутых дзяцей, цынічнасць і жорсткасць буржуазіі. Аднак вось у чым праблема: у таго ж Дызраэлі галоўная гераіня адказвае за жаночую тэму толькі намінальна, таму што агульная ідэя ўсё роўна застаецца ў рамках традыцыйнага патрыярхальнага арыстакратычнага грамадства, а цяжкі побыт працоўных паказаны хоць і рэалістычна, але ўсё ж відавочна з крытычнага пункту гледжання: яны, маўляў, невукі, грубыя людзі, якія не ведаюць, што такое адукацыя і прыгажосць. Дыкенс, хоць і паказваючы ўсю неплацежаздольнасць капіталістычнага ладу, спачатку выратавальнікаў для сваіх юных герояў знаходзіць усё ж менавіта сярод прадстаўнікоў гэтага грамадства, а потым, нібыта расчараваўшыся ва ўсім канчаткова, адказу на адвечнае пытанне «Што рабіць?» усё роўна не дае.

Што чакалі ад жонкі святара, якая пераехала з зіхоткага Лондана ў паўночны працоўны Манчэстэр? Мусіць, цукровай ваты, калі так здзівіліся, што на старонках яе кніг «ажылі і загаварылі прастанароднай, грубіянскай, але затое поўнай энергіі і запалу мовай манчэстарскія працоўныя і працоўніцы». Два сапраўды вялікія раманы «Мэры Бартан» і «Поўнач і Поўдзень» — маглі б быць напісаны мужчынам, калі б мужчыны маглі так спачуваць, як гэта можа толькі жанчына. Калі б мужчыны маглі знізіцца да таго, каб без прадузятасці хадзіць па вуліцах і не шарахацца ад мінакоў.

Дыкенс паказваў жахі і жорсткасці свету працоўнага насельніцтва, Гаскел жа — іх розум і сілу волі. Ангельская буржуазія называла працоўных проста «рукі», не жадаючы прызнаваць у іх людзей, Гаскел жа ўбачыла ў іх не толькі чалавечае, але і шмат у чым — летуценнае. «Джон Бартан стаў чартыстам, камуністам, — словам, стаў адным з тых, каго звычайна называюць вар'ятамі і летуценнікамі. Але хіба быць летуценнікам — так ужо дрэнна? Гэта значыць — быць чалавекам, якому вядомыя не толькі эгаістычныя, цялесныя жаданні, чалавекам, які жадае шчасця іншым, а не толькі сабе».






Партрэт Элізабэт ГАСКЕЛ
працы Джорджа Рычманда

Назва першага рамана — мера вымушаная. Мэры, дачка Джона Бартана, не ключавая фігура, але яна змякчае праблематыку, прымаючы ўдар на сябе, фактычна грудзьмі затуляе сваю стваральніцу ад больш з'едлівых нападкаў і абвінавачванняў у спагадзе чартыстам, у няведанні палітэканоміі, у жаданні выклікаць «фатальная ілжывае ўяўленне», што ва ўсіх іх бедах вінаваты капіталізм. Проста ўявіце сабе смеласць гэтай жанчыны, якая не пабаялася паўстаць супраць традыцый і асноў, якая не пабаялася перайсці на супрацьлеглы бок вуліцы, улюўшыся ў натоўп, які ідзе са змены, як рабіла яе Маргарэт Хэйл у «Поўначы і Поўдні». Уявіце сабе смеласць жанчыны, якая не пабаялася напісаць гісторыю бязроднай служанкі, абясслаўленай багатым сыночкам, але не страціла сваёй сілы волі і дабрыні: даведаўшыся пра цяжарнасць, Руці не палохаецца, яна ўсклікае «Якой жа добрай я цяпер буду!».

Калі пісьменніца зрабіла галоўнай гераіняй свайго чарговага рамана ў літаральным сэнсе заняпалую жанчыну, ды яшчэ і прадстаўніка вышэйшага класа адлюстравала амаральным эгаістам, ад яе адвярнуліся ўсе «рэспектабельныя сябры», але і гэта яе не спалохала, і яна заяўляе: «Я магла б заўтра ж напісаць усё гэта зноў да апошняй літаркі».

Але ёсць яшчэ адна кніга, якая выклікала не менш палемікі, чым «Руф», а магчыма, нават больш. «Жыццё Шарлоты Брантэ» пацягнула за сабой сапраўдны скандал, хоць сама пісьменніца з акуратнай асцярожнасцю падыходзіла да кожнага адлюстраванага пункта, апісанага фрагменту жыцця сваёй сяброўкі. Тэкст, нягледзячы на жанр біяграфіі, вельмі мастацкі, які малюе шырокую карціну грамадства і мясцовасці, не пазбаўлены, натуральна, нейкай прадузятасці і суб'ектыўнасці, але здаецца смелым; чытачы віктарыянскай пары знаходзілі ў ім выклік ханжаству і кансерватызму, баючыся таго бунтарскага духу, які ўвасабляла ў сабе не толькі Шарлота, але і яе сёстры, і пра які не пасаромелася расказаць Гаскел.

Адзін з самых вядомых раманаў пісьменніцы — «Крэнфард». Упершыню ён быў апублікаваны асобнымі часткамі ў часопісе Чарльза Дзікенса «Хатняе чытанне» з 1851 года па 1853 гады. Падзеі рамана разгортваюцца ў выдуманым англійскім мястэчку пад назвай Крэнфард. Лічыцца, што прататыпам Крэнфарда з'яўляецца горад Натсфард у графстве Чэшыр, які Элізабэт Гаскел ведала вельмі добра. Раман уяўляе сабой яркія замалёўкі з жыцця Мэры Сміт і яе сябровак. У правінцыйнае мястэчка прыязджае малады доктар, які тут жа становіцца аб'ектам пільнай увагі шматлікіх незамужніх дам Крэнфарда. Аднак ключавой падзеяй кнігі становіцца вяртанне страчанага брата міс Мэцы, Пітэра, які пасля доўгай маўклівай адсутнасці прыязджае з Індыі. «Крэнфард» быў заснаваны на асабіста перажытых уражаннях Гаскел. У сваіх лістах яна не раз спасылалася на сапраўднасць шматлікіх пацешных здарэнняў, апісаных у рамане: «Там усё праўда, бо я сама бачыла карову, апранутую ў шэрую фланэлевую кофту, — і я ведаю кошку, якая праглынула карункі...» У кнізе адлюстравалася настальгія па далёкай і блізкай краіне яе дзяцінства і маладосці, якая ніколі не пакідала Гаскел на працягу трыццаці трох гадоў, пражытых ёю ў «распаленым, страшным, дымным, гнюсным Вавілоне Вялікім», якім здаваўся ёй прамысловы Манчэстэр. Першапачаткова пісьменніца меркавала абмежавацца адным-двума гумарыстычнымі нарысамі крэнфардскіх нораваў. Дзікенсу ўдалося пераканаць яе прадоўжыць сваю работу і развіць свае накіды ў цэлую аповесць. «Крэнфард» стала, мабыць, самай «дзікенсаўскай» з усіх кніг Гаскел. «Жывая, выразная, энергічная, мудрая, а разам з тым добрая і паблажлівая кніга» — так ацаніла «Крэнфард» Шарлота Брантэ ў сваім лісце да Гаскел.

Элізабэт Гаскел была — усё ж — сапраўднай хрысціянкай. Яна шчыра меркавала, што «асвета дае людзям маральную мудрасць», а значыць, сваімі тэкстамі яна таксама павінна нечаму навучыць. Таму спрабуе ўсіх сваіх герояў калі не прымірыць, дык дыдактычна ўказаць на іх недасканаласць, часам залішне ўдаючыся ў маралізатарства: Джон Бартан, забіваючы сына свайго ворага, шчыра раскайваецца і перад смерцю нават мірыцца са сваім апанентам; гаспадар фабрыкі Мальбара Джон Торнтан знаходзіць агульную мову з працаўнікамі, а рабочы Хігінс, адзін з галоўных яго супернікаў, нават становіцца ягоным сябрам; Руці, выконваючы свой хрысціянскі абавязак, вылечвае свайго разбэшчвальніка ад тыфу, але сама заражаецца і памірае.

Такая была натура віктарыянскага чалавека: мараль найвышэй усяго. Важна іншае: у кнігах Элізабэт Гаскел адлюстравалася рэальная праўда жыцця, у якой чуецца гучны папрок пурытанскай фанабэрыі і заклік да міласэрнасці, што і адлюстроўвае вялікую гуманістычную ідэю, узведзеную ў ранг культурнай традыцыі віктарыянскай літаратуры.

# Кароткі спіс Букераўскай прэміі-2024

Са 156 кніг, вылучаных на прэстыжную ўзнагароду, сёлета ў шорт-ліст па традыцыі выйшлі толькі шэсць. Упершыню за 55-гадовую гісторыю Букераўскай прэміі ў шорт-ліст увайшлі пяць жанчын і ўсяго адзін мужчына (у мінулым годзе было дзве жанчыны). У апошні раз Букераўскую прэмію жанчыны атрымлівалі ў 2019 годзе, калі яе падзялілі Бернардын Эварыста і Маргарэт Этвуд. Усяго ж пісьменніцы ўзнагароджваліся прэміяй 20 разоў з моманту яе заснавання ў 1969 годзе.

Трое з аўтараў, якія ўвайшлі ў шорт-ліст гэтага года, ужо былі намінаваныя на прэмію. Аўтар больш за 20 раманаў Персіваль Эверэт быў у шорт-лісце Букера ў 2022 годзе за кнігу «Дрэвы». Рэйчэл Кушнер выходзіла ў фінал Букераўскай прэміі ў 2018 годзе за кнігу «Пакой на Марсе», французскі пераклад якой атрымаў французскую Прэмію Медычы. Саманта Харві была ў лонг-лісце ў 2009 годзе.

У шорт-лісце 2024 года адзін дэбютны раман: «Захавальнік» Яэль ван дэр Вудэн, якая нарадзілася ў Тэль-Авіве (стала першай аўтаркай з Нідэрландаў, якая ўвайшла ў шорт-ліст Букераўскай прэміі).

Кнігі фіналістаў 2024 года даследуюць вялікія і актуальныя пытанні: спосабы, з дапамогай якіх мы хаваем сваё сапраўднае «я», і спрэчную прыроду існасці; тое, як траўміруючыя гісторыі — асабістыя і калектыўныя — фармуюць і абмяжоўваюць нас ды ідуць за намі.

Шорт-ліст 2024 года выглядае так:

James. Percival Everett;
Orbital. Samantha Harvey;
Creation Lake. Rachel Kushner;
Held. Anne Michaels;
The Safekeep. Yael van der Wouden;
Stone Yard Devotional. Charlotte Wood.

Кожны з аўтараў, якія ўвайшлі ў шорт-ліст, атрымае па 2500 фунтаў стэрлінгаў і адмыслова пераплеценае выданне сваёй кнігі. Абвяшчэнне пераможцы Букераўскай прэміі 2024 года адбудзецца на цырымоніі і вячэры ў Лондане 12 лістапада. Пераможца атрымае 50 тысяч фунтаў стэрлінгаў.

Букераўская прэмія была заснавана ў 1968 годзе. З 2014-га на яе можа прэтэндаваць любы англамоўны пісьменнік, чые кнігі апублікаваны ў Злучаным Каралеўстве (раней узнагароду маглі атрымаць толькі аўтары з Вялікабрытаніі, Ірландыі і краін Брытанскай Садружнасці).

# Міжнародная прэмія імя Івана Франка

Гісторык Аляксей Сакірка стаў лаўрэатам штогадовай Міжнароднай прэміі імя Івана Франка за манаграфію па гісторыі казацкай Гетманшчыны «Казацкі Марс: Дзяржава і войска Казацкай Гетманшчыны ў перыяд Ваеннай рэвалюцыі 1648—1764 гг.» (Кіеў: Темпора, 2023).




Узнагароджанне адной з самых прэстыжных украінскіх адзнак у галіне гуманітарыстыкі адбылося ў Драгобычы. Манаграфія атрымала найвышэйшую ацэнку міжнароднага журы, якое складалася з 12 дактароў навук з розных краін.

Міжнародная прэмія імя Івана Франка была заснавана дзеля папулярызацыі вывучэння творчай, навуковай і грамадскай дзейнасці Івана Франка, а таксама заахвочвання навукоўцаў розных краін свету да даследаванняў у галіне сацыяльна-гуманітарных навук і ўкраіністыкі.

# Літпрэмія імя Вітольда Гамбровіча

Яе лаўрэатам стаў Гжэгаж Богдал, аўтар зборніка апавяданняў «Вось ідзе вялікі хлопчык». Паводле рашэння журы ў літаратурную рэзідэнцыю ў Вансе (на поўдні Францыі, дзе Вітольд Гамбровіч жыў апошнія гады) паедзе Катажына Гронец, аўтарка кнігі «Kundle».




Імя пераможцы было абвешчана ў Радаме падчас гала-канцэрта на фестывалі «Obętani Literaturą». Аўтары і выдаўцы прадставілі 80 кніг.

Прэмія імя Вітольда Гамбровіча прысуджаецца за дэбют, пад якім разумеецца першая ці другая кніга аўтара, напісаная мастацкай прозай на польскай мове. Прадстаўляць на конкурс кнігі, выдадзеныя ў 2023 годзе, маглі выдаўцы, аўтары, прадстаўнікі ўстаноў культуры, літаратурных СМІ, прыватныя асобы. Галоўны прыз — 40 000 злотых. Усе наміnанты таксама атрымліваюць фінансавую ўзнагароду. Дадатковай адзнакай з'яўляецца літаратурная рэзідэнцыя.

Літаратурная прэмія «Witold Gombrowicz» была заснавана мясцовай уладай Радама ў 2015 годзе. Арганізатарамі Прэміі з'яўляюцца мэр Радама і Музей Вітольда Гамбровіча. Ганаровы патранат мае Рыта Гамбровіч.

# Прэмія імя Васыля Стуса

Сёлетнім лаўрэатам прэміі імя Васыля Стуса стала дырэктарка Харкаўскага літаратурнага музея Тацццяна Пiліпчук. Члены журы прэміі назвалі імя лаўрэаткі падчас урачыстай цырымоніі, якая адбылася ў Кіева-Магілянскай бізнэс-школе.

Тацццяна Піліпчук — культурны мэнэджар і валанцёрка, дырэктарка Харкаўскага літаратурнага музея, даследчыца ўкраінскай літаратуры 1920—1930-х гадоў. За гады незалежнасці літмузей зрабіў велізарны ўклад у захаванне і пашырэнне памяці пра ўкраінскіх мастакоў 1920-х гадоў і дысідэнтаў савецкага перыяду. З 2022 года музей з'яўляецца часткай супольнасці, якая абараняе горад і аб'ядноўвае вайскоўцаў, мастакоў і валанцёраў. «Ці было страшна нашым 1960-м апынуцца ў нечалавечых умовах савецкіх лагераў, не бачыць родных, не мець магчымасці гадаваць дзяцей? Я думаю, так. Але ў сітуацыі экстрэмальнага перажывання становіцца відавочным тое, што сапраўды важна. Не варта было баяцца, калі забіралі ўласную годнасць. Ці баімся мы сёння? Так. Але мы таксама вырашылі не баяцца. І мне здаецца, што нам сёння крыху лягчэй, бо мы маем сваю гісторыка-культурную спадчыну — і ўкраінскія 1920-я, і ўкраінскі рух супраціву 1960-х. Мы змаглі гэта захаваць, нягледзячы на ўсе шматлікія спробы знішчыць нашы творы і нашых аўтараў. І такія ўзнагароды — Васыля Стуса ці Юрыя Шавялёва — гэта яшчэ і спадчыннасць і захаванне памяці», — сказала на цырымоніі ўзнагароджання Тацццяна Піліпчук.

Лаўрэатка атрымала грашовую ўзнагароду і статуэтку, распрацаваную дызайнерам Дзмітрыем Пакрасёнам і скульптарам Станіславам Кадочнікавым.

Арганізатарамі прэміі імя Васыля Стуса з'яўляюцца Украінскі ПЭН, Кіева-Магілянская бізнэс-школа і выдавецтва «Дух і літара». У 2024 годзе прэмія прысуджалася 35-ы год запар.

Прэмія імя Васыля Стуса — адна з найстарэйшых украінскіх прэмій у галіне культуры, заснаваная ў 1989 годзе Украінскай асацыяцыяй незалежнай творчай інтэлігенцыі (на чале з Яўгенам Сверсцюком). У мінулым годзе лаўрэатам прэміі стаў рэжысёр-дакументаліст Сяргей Букоўскі.

# Прэмія польскага ПЭН-клуба

Агнешка Папеска і Робэрт Папескі былі ўганараваныя Рэдакцыйнай прэміяй Польскага ПЭН-клуба і ганаровым консулам Вялікага Герцагства Люксембург у Сопаце. Агнешка Папеска і Роберт Папескі разам падрыхтавалі (і зрабілі анатацыі) двухтомнік «Anna and Jarosław Iwaszkiewiczowie, Jerzy Lisowski: Listy».

Ідэя Рэдакцыйнай прэміі Польскага ПЭН-клуба і Ганаровага консула Вялікага Герцагства Люксембург у Сопаце, якая ўручаецца ў супрацоўніцтве з ECS, заключаецца ў тым, каб ацаніць прафесіяналізм і майстэрства людзей, якія звычайна застаюцца ў цені, хоць без іх многія шэдэўры былі б неапублікаваны.

# Прэмія імя Касцельскага

Журы ўганаравала Прэміяй імя Касцельскага ў 2024 годзе Аляксандру Тарноўскую, дэбютны раман якой «Wniebo Głos» — надзвычай арыгінальная проза, дзеянне якой адбываецца ў вёсцы Туклёнч у цэнтральнай Польшчы. Аўтарка ўводзіць чытача ў свет невялікай супольнасці, у якой яшчэ захаваліся традыцыйныя звычаі, абрады і забабоны, звязаныя з пераходам жыцця да смерці. «І ў доўгай гісторыі вёскі Туклёнч, і ў галасах Тарноўскай можна пачуць адгалоскі плачу і псалмоў Каханоўскага. Прыгожая, сталая проза», — напісана ў абгрунтаванні журы.

Цырымонія ўзнагароджання адбылася ў Варшаве ў Палацы Рэспублікі, прадстаўнічай рэзідэнцыі Нацыянальнай бібліятэкі.

Летась прэмію імя Касцельскага атрымала Уршуля Хонэк за зборнік апавяданняў «Белыя ночы».

Фонд «Kaścielski» быў заснаваны паводле запавету памерлай у 1959 годзе Монікі Касцельскай, удавы выдаўца, паэта і мецэната Уладзіслава Аўгуста Касцельскага. Мэтай фонда з'яўляецца падтрымка развіцця польскай літаратуры і паэзіі шляхам уручэння прэмій маладым польскім творцам (пераважна пісьменнікам і літаратуразнаўцам), якія не дасягнулі 40-гадовага ўзросту. Упершыню прэмія — найвышэйшая пастаянная польская літаратурная ўзнагарода за межамі краіны — была прысуджана ў 1962 годзе.

# Вершы Толкіна — праз паўстагоддзя

Дж. Р. Р. Толкін, адзін з самых вядомых пісьменнікаў свету, марыў быць прызнаным паэтам. І вось праз 50 гадоў пасля смерці пісьменніка ўпершыню выйдзе яго зборнік вершаў.

На працягу ўсёй сваёй кар'еры Толкін спрабаваў выдаваць свае паэтычныя зборнікі і нават уключыў каля 100 вершаў у «Хобіта» і «Уладара пярсцёнкаў». Цяпер, праз паўстагоддзя пасля яго смерці, 70 неапублікаваных раней вершаў стануць даступныя: «HarperCollins», адна з найбуйнейшых выдавецкіх кампаній у свеце, выпусціць «Збор вершаў Толкіна», у які ўвайшлі больш за 195 яго твораў.

Сын і літаратурны спадчыннік аўтара Крыстафер Толкін хацеў, каб паэтычны талент бацькі быў больш вядомы, і перад смерцю ў 2020 годзе працаваў над праектам з двума вядучымі экспертамі ў галіне Толкіна Крысцінай Скал і Уэйнам Хамандам. У названы зборнік увойдуць «дзіўна прыгожыя» вершы, якія раней не публікаваліся, што дазволіць чытачам яшчэ лепш пазнаёміцца з Толкінам. Сярод неапублікаваных матэрыялаў — ваенныя вершы, метафарычныя творы, якія больш апавядаюць пра жыццё, страты, веру і сяброўства, чым акопы і баі.

«З-за таго, што яго найбольш камерцыйна паспяховыя творы, «Хобіт» і «Уладар пярсцёнкаў», мелі так шмат чытачоў, і таму, што яны ўтрымліваюць каля 100 вершаў (у залежнасці ад таго, як вы лічыце), майстэрства Толкіна як паэта павінна быць ужо добра вядома», — гаворыцца ва ўступе да зборніка вершаў Толкіна. — Многія з тых, каму падабаюцца яго апавяданні пра Міжзем'е, хутка перагортваюць паэзію або ўвогуле цураюцца яе: ці то спяшаючыся перайсці на прозу, ці то таму, што зусім не любяць паэзію, ці думаюць, што не любяць. Гэта іх страта, таму што яны губляюць неад'емныя элементы, якія дапамагаюць развіваць сюжэт, ствараць характар і настрой».

# Прыжыццёвы партрэт Шэкспіра

Брытанец Стывен Удлаў сцвярджае, што яго сям'я валодае адзіным партрэтам Уільяма Шэкспіра, створаным пры жыцці драматурга. Удлаў, які працуе мыйшчыкам вокнаў, каля дзесяці гадоў супрацоўнічаў з экспертамі, каб пацвердзіць здагадку.

Лічыцца, што існуюць толькі дзве сапраўдныя выявы Шэкспіра. Гэта бюст на магіле і гравюра мастака Марціна Дрошаўта, якія з'явіліся ў Першым фаліянце — аднатомным выданні 1623 года, якое ўключала амаль усе п'есы Шэкспіра. І бюст, і гравюра выкананы пасля смерці драматурга. Ёсць таксама каля дзесяці іншых гравюр, якія, верагодна, адлюстроўваюць Шэкспіра.

Масляны ж партрэт быў набыты ба́цькам Удлаў, антыкварам, на распродажы ў 1960-х гадах. Ён вісеў у сямейнай гасцінай да 2012 года. У той год бацька патэлефанаваў сыну і сказаў, што глядзеў дакументальны фільм пра Шэкспіра і ўбачыў, што драматург «па тэлевізары падобны да нашага хлопчыка». Па словах Стывена Удлаў, далейшы аналіз пацвердзіў, што карціна была напісана ў 1595 годзе, калі Шэкспіру быў 31 год. Гэтая лічба ледзь прыкметная ў верхняй частцы партрэта. «Ва Універсітэцкім каледжы Лондана прааналізавалі хімічны склад фарбаў з дапамогай мультыспектральных камер і вызначылі, што ён адпавядае таму перыяду», — дадаў ён.

Аднак акадэмічная супольнасць пакуль не ўспрымае ўсур'ёз усе доказы, якія сабраў Стывен Удлаў. «Не адна акадэмічная кар'ера разбілася на партрэтах Шэкспіра».




Адрас электроннай пошты: litaraturnaja.bielarus@gmail.com

З новымі электроннымі нумарамі «Літаратурнай Беларусі», а таксама з яе мінулагоднімі выданнямі можна пазнаёміцца на інтэрнэтрэсурсах.